# МІЖНАРОДНАЯ ХРОНІКА

Угары: Франклін Д. Рузвельт (прадстаўнік дэмакратычнай партыі) выбраны н/ пасаду прэзыдэнта ПАЗШ. Уніза: Вільямс Форстэр і Джэмс Форд, якія былі высунуты кампартыяй Амэрыкі на пасады прэзыдэнта і віцэ-прэзыдэнта ПАЗШ.





Манэўры японскіх школьніц. Упяршыню ў сусьветнай гісторыі ваенныя манэўры праводзяцца выключна школьніцамі у складзе трох тысяч чалавек. На здымку: Батальён салдат пад камандай афіцэра навучае школьніц стральбе...



Цюрынгія (Нямеччына), якою з 1930.г. кіруюць фашысты, амаль поўнасьцю збанкрутавалася. Насельніцтва некаторых мястэчкаў спрэс беспрацоўнае. У часе апошніх выбараў 75 проц. насельніцтва м-чка Франкенгайм аддалі свае галасы кампартыі. На здымку: На пошукі харчоў. Працы ўжо ня шукаюць. Яе няма нідзе.





Банкруцтва фордаўскіх прадпрыемстваў. Год назад у Кельне Форд адкрыў філіял сваіх аўтазаводаў. У філіяле працавале 1.200 чал. У гэтым годзе завод амаль спыніў працу, на ім працуе толькі 150 чал. На здымку: Агульны выгляд заводу Форда ў Кельне.



Да „непарадкаў" у Паўночнай Ірляндыі. Абурэньне беспрацоўных была выклікана жабрачаю дапамогаю, якая выдавалася ім у якасьці аплаты іх працы на грамадзкіх работах. На здымку: Паліцэйская бронемашына, якая ўдзельнічала ў баёх з рабочымі.



Удзельнікі галоднага паходу на Лёндан выявілі надзвычайную дысцыплінаванасьць і не паддаліся ні на якія паліцэйскія [illegible]



Усяго ў Гайд-парку (Лёндан) сабралася звыш ста тысяч удзельнікаў галоднага паходу на Лёндан. На здымку: Конная і пешая паліцыя зьбівае дэманстрантаў

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ

САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ

АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

СЬНЕЖАНЬ № 23-24 1932

ЯКУБ КОЛАС

## ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Граніц няма шаленству катаў.
— Душы! даві!
Крыві! крыві!
Вось лёзунг панскіх дэмократаў.
Лютуе кат. Растуць магілы,
А на магілах бур'яны...
Краіны верныя сыны!
Клюе вас „ожэл" белакрылы.
Працяты жудасьцю астрогі,
Абліты кроўю іх муры...

Хвала вам, змагары —
Не зарастуць вашы дарогі.
Вас судзіць суд прадажнай зграі.
Дзе панскі зброд,
Сумленьне кінуты за плот,
На... крэсах „цуды" вытварае.
А на тых „крэсах" стогн пакуты,
Гібее, чэзьне там народ—
Нацыянал-фашысцкі бот
Ступае помсьліва і люта.

О, Беларусь у польскіх межах.
Цябе расьпялі на крыжы,
І смокчуць мозыг з твой вужы,
І дзеліць кат твае адзежы.
Але ўсяму ёсьць своя мера—
Надыдзе няўнікнёны час,
І будзе суд загнаных мас—
Аплату ён нясе вам, зьверы.

16-XI—1932 г.

ЯНКА КУПАЛА

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Як калісь сьпявалі
Аб горы, няволі, —
Так сьпяваць ня будзем
Болей ўжо ніколі.

Адно, брат, падумаць,
Адно падзівіцца,
Як жыцьцё пабегла
Жваваю крыніцай:

Бальшавік дасужы
Гаспадарку творыць,
А так, дружа, ўдала,
Што ня будзе гора.

Во—зірні—сярмяжнік
Паганяе трактар,
Касекі карчуе,
Межы рэжа ўпартэ.

Фабрыкі, заводы, —
Коміны пад неба...
Шмат чаго мы робім,
А йшчэ болей трэба.

За час доўгі—доўгі—
За ўсё паўстагодзьдзе —
Шмат зрабіў ты, браце,
Ды яшчэ ня годзе.

Перад намі, Колас,
Сьветлы шлях адкрыты...
На нівах красуе
Ядраное жыта.

Час перажываем
Казачна-цудоўны...
Давай-жа пець песьні
З усёй грудзі поўнай.

З думкаю—наперад,
З думкай бунтаўнічай —
Туды—усё далей,
Куды жыцьцё кліча.

Хай твой голас льлецца
Радасьцю жывою,
Як тут у Саюзе,
Так і за мяжою.

Жыві, мілы Колас,
Многа летаў, зімаў
З ясным сонцам побач
На зямлі радзімай.

Менск, 11-XII—32 г.

ЦІШКА ГАРТНЫ

# АРСЭНАЛЕЦ САМУСЬ КАВЕНЯ

I

Цёмны, змрочны двор—падобны да студні. Чатыры шэрых сьцяны, пабітых квадратамі вокан, шчыльна туліліся ў рагох адна да другое. Шэ ы халодны туман абвісаў золкаю вільгацьцю ад даху да зямлі. Па сьценах лілася рагамі вада. З-пад варотнае аркі, як з цёмнае лёхі, адзін за другім выбягалі людзі, жыхары гэтага дому-тыну і хутка, як напалоханыя, імчаліся да няпрытульных пад'ездаў, зрэдку чуўся згублены выгук, невядома да каго пасланы сказ, адрыўны і зацяжны кашаль: яны глухлі пад стальлю важкага паветра. Прыглушаны ту ат цягнуўся вужышчам па дыаганалі ад варот да супроцьлежных пад'ездаў.

Ужо з паўдня ў некаторых вокнах паўночае сьцяны замігалі зелянцаватыя газавыя агеньчыкі. Запацелае шкло матавіла, рэзкія срэбраныя касьнікі праменю і агеньчыкі падобіліся да смуглых туманнасьцяў на шэрым паўночным небе.

А трэцяй гадзіне дня, калі ўжо змрок разгортваў свае акрывала над суровай сталіцай, паскоранымі крокамі вайшоў у двор маладжавы, высокага росту, стройны мужчына; у яго праз плячо вісела вінтоўка, а на шырокім раменным поясе—салдацкая патронная сумка; у левай руцэ ён трымаў, часьці, зьняты з вінтоўкі штых. Чалавек павярнуў на левую дыаганаль і ўжо быў насярэдзіне двара, як зьнячэўку выпусьціў з рук штых. Звонкі бразак сталі аддаўся гучным рэхам у сьценах будынку. Бразак быў да таго неспадзеўны, што зьвярнуў на сябе ўвагу многіх жыхароў дому: у радзе вокан, зранку не адчынятых, апынулася некалькі цікавых асоб. На адрас варужнага чалавека сыпнулася даволі плоскіх, але ябедных рэплік. З іх выразна выдзяляўся тэнаровы голас вядомага ў доме паручыка Атавы.



**Навуковыя арганізацыі і ўся савецкая грамадзкасьць адсьвяткавалі 75-ці гадовы юбілей вучонага, дасьледчыка праблемы міжплянэтных палётаў, канструктара міжплянэтнай ракеты К. Э. Цыялкоўскага. На здымку: К. Э. Цыялкоўскі ў сваім рабочым габінэце**

— Чырвоны ваякка-а! Бальшавіцкі мантан'яр... Савецкая армія!

Паручыкава жонка правяла мужавы сказы заліўным, сардонічным рогатам і дадала ад сябе:

— Ленінская войска. Хіх-ха-а!

Падняўшы штых, варужны чалавек адвярнуўся ўправа і праз шэрую абалонку туману добра адлічыў знаёмы яму сухарлявы насасты твар паручыка.

Дэгэнэратыўныя рысы старарэжымніка хавалі ў сабе адбіткі паручыкавага подвігу 3 ліпеня.

— Рупіць? Дачакаешся свайго! — накіравалася ў вакно, з якога тырчэла аблічча царскага ваякі.

Сьледам у двары стала ціха: крокі ўплылі ў пад'езд і прагрукацелі праз тры пралёты, змоўкшы перад дзьвярыма за № 27.

— Самусь?—пачулася ў наступную хвіліну ў разорцы прыадчыненых дзьвярэй, адкуль вызірнула жаночая галава.

З бразгам зашчапкі, той самы голас запытаў:

— Што там здарылася з табою, Самусь?

Самусь Кавеня, сябра аружнага атраду рабочых-арсэнальцаў, вайшоўшы ў пакой, пасьпешна зьняў вінтоўку, узьдзеў штых, расьперазаў рэмень з падчепленым патранташам і падышоў да вакна.

— Атаву я не даспадобы... Гэтай белагвардзейскай сволачы прагне рабочае крыві... але ён захлынецца ў сваёй...

Самусь не дасказаў: паручыкава постаць мігнула ў яго ваччу, хутка схаваўшы ў браме.

— Памчаўся дзесьці... Ці вернецца толькі, — пагрозьліва паслаў Кавеня ўсьлед свайму клясаваму ворагу.

Жанчына дабегла да Самуся і ўзорылася ў шэрань надворнага змроку.

— Абедацьмеш?—абярнулася яна да Самуся.

— Няма часу, Воля.

Пытальны ўзрок маладзіцы выклікаў новае завярэньне з яго боку.

— Так, Воля, наш атрад напэўна ўжо ў паходзе. Я забег дамоў па рэвальвэр. Мушу сьпяшыць, каб не астацца.

— Пачынаецца?

Недачакаўшыся адказу, Воля порстка завіхнулася каля камоды і ху ка выбегла з пакою, праказаўшы з-за дзьвярэй:

— Пару хвілін, Сама, і я згатую шклянку кавы.

Самусь падышоў да шафы, дастаў і адзеў пад жукетку пярэсты паношаны джэмпэр; пасьля выняў з скрынкі ў стале ўзважысты новы кольт і хапіўся праверыць яго набой.

„Пасьмяецца ён заўтра. Гэта яму ня ліпень, каб практыкавацца ў расстрэле рабочых на рагу Садовай і Неўскага. Мінулася кату масьляніца“,— пацешыўся арсэналец.

Ужо ён быў у паліце, калі Воля падала яму шклянку пахнучай смачным кавы:

— Пі—ы, хоць нішчымнай... На вуліцы золка...

Яна панырпаліла пад скацерткай на камодзе і падала мужу акрайчык чорнае булкі.

— Зьеш, Сама... Меншавіцкія дасягненьні...

— Скончаны ўжо... Ну, бывай! Сёньні наўрад ці вярнуся.

Ён ткнуўся ў дзьверы і бразнуў крукам.

— Толькі беражыся, Сама...

Глухі водгалас гарматнага стрэлу, варваўшыся ў пад'езд, прабег усходамі да столі.

Воля ажно жахнулася і прытулілася да дзьвярэй.

— Самусь...

Яна працягнула да мужа разьнятыя рукі, але яны апалі на халодныя парэнчы ўсходаў: уніз пасыпаліся частыя крокі Самусевых ног.

II

У наступную хвіліну Смусь Кавеня перасякаў цёмны завулак, трымаючы напрамак на Вялікую Марскую.

На дварэ падаў лохмамі мокры сьнег і лужы вады плюхалі пад нагамі. На зелянцаватым агні газавых ліхтароў мігаліся сылуэты праходжых. Іх было досыць многа і ўсе яны, хто ўтуліўшыся ў канер паліта, хто пад парасонам, сьпяшылі кудысьці ў бок тэатру „Музыкальная драма“. Над вялікім горадам зьвісала цёмна-чырвонае акрывала прамені і зьлітны сталёвы гул. З боку Неўскага і Адміралцейства насувалася чорная сьцяна цемрыва.

Раптам з яе тхлані, як з-пад зямлі, вылецелі адзін за другім два гулкіх гарматных стрэлы. Ім заўтуравала перапеўная траскатня кулямётаў. Гукі стрэлаў былі так чоткі і блізкі ад Самуся, што ён ажно спыніўся, каб праверыць, ці толькі яны ня з бліжэйшага пад'езду.



**Масква. На заводзе „Маномэтр" па ініцыятыве санпункту заводу праведзена азеляненьне маномэтравага цэху**

Зайшоўшы за наступны будынак, ён скмеціў, што страляць могуць ня дзе—як пад тэлефоннай станцыяй; гэта было зусім недалёка, і Самусь, паскорыўшы хаду, хвілін праз пяць апынуўся каля готэлю „Асторыя". Сяміпавярховы стройны будынак не паходзіў на сябе. Атулены густым змрокам, ён палахліва туліўся да суседніх будынкаў, звонячы цёмнымі вокнамі ад пачашчаных стрэлаў гармат.

— Сто-ай! Праходу няма! — перапыніў Самуся прыказны окліч патрульнага.

— Свае... Таварышы арсэнальцы?—адазваўся з запытаньнем Самусь і ступіў яшчэ некалькі крокаў наперад.

Тут ён убачыў, што папаў у распалажэньне рэвалюцыйных атрадаў, якія абаранялі ўжо адбітую ў юнкероў тэлефонную станцыю.

— Ці ёсьць хто з арсэнальцаў?—запытаў ён наперад сябе.

— Арсэнальцы...

Адказ быў прысечаны частымі вінтовачнымі стрэламі, якія раздаліся зусім зблізку.

Патруль, а з ім і Самусь крута заламалі да сьцяны.

Калі страляніна змоўкла, пачулася каманда:

— Зьбіррайся-а!

Праз хвіліну-другую Самусь, стоючы правафланговым, ішоў з атрадам рабочых і салдат, абгінаючы „Асторыю" і накіроўваючы да Адміралцейскага саду.

Супроць Гарохавай вуліцы атрад спыніўся: хутка праз вуліцу працягнуўся баявы засуцэлены ланцуг. Самусь змыкаў яго з жалезнаю агароджаю саду.

Каля зімніх палац разгарнулася бітва. Залпы з вінтовак і кулямётаў звонка тарашчэлі ў прасторы Дварцовае плошчы. Час ад час, як з надумам, дзважыла з Нявы Аўрораўская гармата.

Самусь няўрымсьціўся: яму карцела ўраз-жа сарвацца з месца і рынуцца туды, наперад, дзе вырашаўся лёс пралетарскае рэвалюцыі.

— Пашлі, таварышы!—падбіў ён суседзяў, і, недачакаўшыся адказу, ні каманды, рушыў наперад.

Сьледам была падана каманда „ў наступ", але яе заглушылі неўпарадкаваныя стрэлы арсэнальца.

III

Атрад прамінуў Неўскі, выходзячы на Дварцовую плошчу з паўночнага боку. З правага флангу атрымаўся стык з рэвалюцыйнымі сіламі, што гіганскаю паўдугою пачыналі агульны наступ на апошнюю фортэцыю збанкрутаваўшай буржуазіі. Зімнія палацы апынуліся ў жалезным абручы паўстаўшых рабочых і залдат. Урочная хвіліна набліжалася.

Але яго абаронцы не здаваліся. Юнкеры і ўдарніцы працягвалі заўзята бараніцца.

— Ддарэмна-а, мі-ылыя! — уголас пагіранізаваў Самусь, увесь прасякнуты баявым натхненьнем.

Ён не пасьпеў ухапіцца за наступную думку, як раптам белы шаль прожэктарнага сьвятла прарэзаў цемрыва над плошчай. Яго канец шырокай лапінай уперся сьпярша ў высокія чыгунныя балясы з жоўтымі арламі і каронамі, пасьля паважным рухам прайшоў па чырвонай сьцяне палац, павіснуўшы дугою на калёне „славы".

Самусь бачыў, як чорныя цені абаронцаў часовага ўраду мітусьліва забегалі каля балясаў, хаваючыся ад сьвягла ў варогах саду і ў палацным пад'езьдзе.

Трэба было як найхутчэй леваму флангу набліжацца да лініі садовай агароджы. Ворагу не павінна мець шляху да ўцёкаў.

— Таў-варрышы, льляў-веэй!—гукнуў ён з адгону суседзям і пашоў пярэднім.

У гэту хвіліну, нездалёк ад яго, сажняў са два ўправа, пачулася зычная, многагалосая:

— Гурра-а-а!

І гучны тупат сотняў ног заглушыў сабою траскатню стрэлаў: Самусь апынуўся ў разгоністым наступе матроскага атраду.

Вораг здаваўся: яго залпавая страляніна разьмянялася на паадзінкавыя, заміраючыя стрэлы.

Хутка Самусь стаяў перад гуртам абязброеных ударніц.

— Вось дык белая гвардыя! Вось дык апора Керэнскага!—ня стрымаўся ён.

IV

Самусь ня мог аставацца там, дзе справа была скончанай; ён кінуў надзейна аколеных ударніц, і левафланговым пашоў на палац. З балькону, і з вокан, і з двара працягвалася страляніна. Паўстанцы ўпэўнена звужвалі адгон паміж крыламі наступаючых. Вось ужо правае крыло стачылася з тымі, што ішлі з Мільённай, а левае—зраўнялася з рогам будынку палац. Пад нагамі ў Самуся пачулася ўзвышша. Зьнянацку правы сусед зачапіўся нагамі за каменны бар'ерчык і прыгнуўся да долу. Другі, за тым ткнуўся лобам аб няпрыметную калёну.

— Трымайцеся, таварышы, мацней! — падбадзёрыў Самусь і вап'ерся штыхом у дубовыя дзьверы пад'езду.

Націскаўшыя ззаду прапхнулі яго ў смутна асьветлены калідор Зімніх палац. Ён уверана падняўся па ўсходах і хутка апынуўся ля высокіх белых дзьвярэй.

— Адпірай!—гукнуў яму нагнаўшы таварыш.

Тоўстая крывая клямка апусьцілася ў пруткім націску Самусёвы рукі, і правая фортка дзьвярэй падалася к сьцяне.

Самусь памкнуўся прайсьці ў пакой і не пасьпеў падняць нагі, як з-за шырмаў выбухнуў стрэл, а сьледам выткнулася галава паручыка Атавы.

— Га-а-а, дружок, дык гэта ты тут!—гукнуў Самусь і ўміг апынуўся ў пакоі.

Спрытна разраджаны кольт грузна паваліў паручыка ў супроцьлежных дзьвярах бліскучага пакою, побач паручыка бразнула сьпіхнутая ім з пазалочанай тумбы багатая кітайская ваза. Некалькі чарапкоў ляглі на мундзіры мёртвага паручыка.

— Та-ак, міляга! Успамінай мінулы час,—сур'ёзна праказаў Самусь і вярнуўся на ўсходы.

У гэты момант экскарт рэвалюцыйных матросаў справодзіў з палац арыштаваных міністраў Часовага ўраду.

Самусь з таварышам далучыўся да складу канвойных, накіраваўшых к выйсьцю.

З пляцу ўрываліся ў палац урачыстуючыя воклічы:

„Няхай жыве ўлада саветаў!

Няхай жыве пралетарская рэвалюцыя!"

**Х Л Е Б І Д З Е**

**Выгрузка ў Растоўскім парту збожжа са шхуны**



ЯКУБ КОЛАС

# З ПОВАДУ МАЙГО ЮБІЛЕЮ

У жніўні месяцы 1906 году ў горадзе Менску па Падгорнай вуліцы—цяпер вуліца Карла Маркса—у доме № 56, калі ня хібіць мая памяць, адбываўся патайны сход прадстаўнікоў розных рэвалюцыйных арганізацый. Між іншым, на сходзе абмяркоўвалася пытаньне аб тым, якія спосабы трэба прызнаць найболей мэтазгоднымі, каб весьці рэвалюцыйную прапаганду сярод шырокіх пластоў працоўнага люду. Былі тут прадстаўнікі і ад вясковага настаўніцтва. На гэтым сходзе пазнаёміўся я з Уласавым, потым рэдактарам „Нашай Нівы", і ад яго даведаўся, што ў Вільні праектуецца выданьне газэты ў беларускай мове. У той час сярод вясковага настаўніцтва і розных груп дробнай інтэлігэнцыі я быў троха вядомы, як беларускі паэт. Мае вершы рознага зьместу хадзілі сям-там у рукапісах. Аказалася, што Уласаў разыскваў мяне, каб залучыць у супрацоўнікі беларускае часопісі. Я быў дужа ўсьцешаны, даведаўшыся аб нараджэньні ў блізкай будучыні беларускай газэты і з радасьцю даў згоду прыняць удзел у выданьні газэты. Выступаць-жа ў беларускай газэце пад сваім уласным імем была рызыкоўная справа. Царская палітыка ў дачыненьні да народаў, уваходзіўшых у склад Расійскай імпэрыі, не дапускала ніякіх прадушын для іх нацыянальна-культурнага адраджэньня. Настаўнікам-жа цыркулярна забаранялася ня толькі прымаць удзел у справе разьвіцьця культуры свайго народу, але і пісаць у газэтах больш-менш лібэральнага кірунку. Бяз рызыкі можна-б было пасылаць допісы толькі ў органы выразна чорнасоценнага друку.

Вось тут, на гэтым сходзе, і перарабіў я сваё імя на Якуба Коласа, з якім і выступіў у беларускай літаратуры.

Я прыгадаў гэты факт, цяпер, праз дваццаць шэсьць гадоў, у сувязі з маім пяцідзесяцігадовым юбілеем. Прыгадаў я яго для таго, каб параўнаць мінулае з гэтым, што робіцца і зроблена цяпер партыяй бальшавікоў і савецкай уладай у справе ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі. Калі-б дваццаць шэсьць гадоў таму назад, на тым-жа самым сходзе, мае вочы, якім-небудзь чынам убачылі ўсё тое, што здабыта нацыянальнымі культурамі народаў СССР і ў прыватнасьці беларускаю ў абсягу культурна-нацыянальнага будаўніцтва пад сьцягам камуністычнай партыі і савецкай улады, я не паверыў-бы і прыняў-бы гэта за сон, за фантастычную казку. І сапраўды, калі гаварыць аб Савецкай Беларусі, прыняўшы пад увагу той факт, што савецкая ўлада, заснаваная тут усяго толькі дванаццаць гадоў таму назад, то ўсё здабытае за гэты час на фронце культуры прадставіцца, як дзівосная казка. Беларуская Акадэмія Навук, дзе концэнтруецца навуковая мысьль разьняволенай краіны; Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, куды вольным шумным патокам сьцякаюцца тысячы нашай працоўнай моладзі; Дзяржаўная бібліятэка, дзе сабрана больш мільёну кніг; дзесяткі вышэйшых навучальных установ, сотні сярэдніх, тэхнікумы розных спэцыяльнасьцяй, навукова-дасьледчыя ўстановы, дзесяткі тысяч пачатковых школ, дзе гучыць беларуская мова, дзе фармуецца



Якуб Колас сярод сваіх сучняў у часе настаўніцкай працы ў в. Семкава. (Здымак 1922 г.)

новы чалавек—хіба ўсё гэта не нагадвае казку? І як марны, як нікчэмны ўсе патугі майстраў з фашыстоўскага лягеру, каб ахаяць нацыянальную палітыку савецкай улады.

Дваццаць шэсьць гадоў таму назад беларуская літаратура была прадстаўлена ўсяго некалькімі імёнамі, і даволі пальцаў аднэй рукі, каб іх пералічыць. Па цёмных кутках, хаваючыся за свае псэўдонімы, рызыкуючы сваімі мізэрнымі пасадамі, ня маючы ніякай матар'яльнай карысьці, пісалі беларускія пісьменьнікі. Калі-ж зьвярнуцца да савецкай рэчаіснасьці і паглядзець на становішча беларускай літаратуры, на сёнешні дзень, то нельга ня дзівіцца яе вялікаму росту за гэты час. Сотні новых пісьменьніцкіх імён, дзесяткі выдатных талентаў узгадавалася на яе гонях. Чым тлумачыцца гэты факт? Перш за ўсё тымі спрыяючымі ўмовамі, якія дае савецкая ўлада пісьменьніку. Можна сьмела сказаць, што нідзе на сьвеце не даны пісьменьніку такія мажлівасьці для яго творчага росту, як у Савецкім Саюзе, і ніякая іншая рэчаіснасьць не дае яму такога жывога, цікавага, багатага матар'ялу, які дае яму рэчаіснасьць савецкая. І другая важная акалічнасьць: Кастрычніцкая рэвалюцыя, зьняўшы аковы рабства, вывела з нетраў працоўных мас яе творчыя сілы і дала шырокі прастор для іх выяўленьня.

Надзвычайнае разьвіцьцё вышэйшых навуковых і навучальных установ, нябачанае пашырэньне граматнасьці, нябывалы рост літаратуры і мастацтва—вось вузлавыя пункты здабыткаў нацыянальнага ленінскага культурнага будаўніцтва, якое мусіць прызнаць кожны, хто мае вочы, каб бачыць.

Не фашызм, не буржуазны лібэралізм нацыянал-дэмакратызму, а толькі дыктатура пралетарыяту пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі забясьпечвае нацыям іх культурны рост і росквіт.

Калі прадстаўляеш сабе малюнак культурнага будаўніцтва ў межах Савецкай Беларусі і яго здабыткі, то мімаволі прыходзіць на памяць і Беларусь пад польскай акупацыяй. І нельга думаць аб Заходняй Беларусі без таго, каб ня прыгадаць беспрасьветных часоў царскага гнёту эпохі сталыпіншчыны з яе ваенна-палявымі судамі, расстрэламі, шыбеніцамі. Мімаволі ў памяці ўстае азьвярэлы ціск нацыянальнай культуры, часы зьдзеку і гвалту і жандарска-паліцэйскага разгулу. Калі даўней, за царом, на месцы Беларусі была „Западная Окраина", то цяпер на месцы Заходняй Беларусі сталі „Усходнія Крэсы". Калі за царом груба тапталася, высьмейвалася і выганялася з школ беларуская мова, то цяпер у дадатак да ўсяго гэтага там накладаюцца штрафы за ўжываньне дзецьмі ў школе свайго матчынага слова. Тыя-ж нямногія культурныя ўстановы, што былі выкліканы да жыцьця ў выніку рэвалюцыйных падзей, цяпер зьліквідаваны поўнасьцю. Усе вогнішчы беларускага культурнага жыцьця загашаны панамі-ваяводамі „культурнай", „дэмакратычнай", панскай Польшчы. Разгромлена таварыства беларускай школы. Лепшыя сыны працоўнага беларускага народу разагнаны, заціснуты ў падпольле, або пасаджаны ў астрогі. Як і ў царскія часы, там шырока практыкуюцца тыя-ж самыя кодэксы закону ў дачыненьні да „крамольнікаў", што аддаюць сваё жыцьцё за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне працоўных.

Тыя-ж царскія астрогі і па сёнешні дзень застаюцца там галгофамі і крыжнымі дарогамі, якімі ідуць мучанікі за справу працоўнага народу.

У дні, калі тут шырокая савецкая грамадзкасьць, пісьменьніцкія карпарацыі, работнікі навукі рыхтуюцца адзначыць маё пяцідзесяцігодзьдзе і аказваюць мне высокі гонар, то там, у акупаванай Беларусі, судзяць яе лепшага з лепшых сыноў, Браніслава Тарашкевіча, замучанага, абяскроўленага цяжкою няволяй польскіх астрогаў.

Прысяжныя каты панскай юстыцыі, гнойныя язвы на целе працоўнага народу, у хаўрусе з правакатарамі, з дыфэнзыўнымі махлярамі, з купленымі за панскія срэбранікі, сьведкамі, ужо робяць судовую камэдыю і ўносяць карэктывы да роляў, утраціўшых чалавечае аблічча камэдыянтаў. Стрымайце вашы брудныя крывавыя рукі, прыслужнікі Ваала! Закрыйце гнойнікі вашага словаблудзтва, інтэрвэнцыяністцкія майстры. Каго судзіце і вядзеце на галгофу?..

Як хутка забылася ты, „культурная" панская Польшча, аб сваёй няволі пад абцасам царскага боту!

Уступаючы ў другую палавіну свайго веку, я горача пратэстую супраць клясавай і нацыянальнай расправы над беларускім народам Заходняй Беларусі і яе вернымі дзецьмі. Няхай высока ўзаўецца наш чырвоны сьцяг Саветаў!

Малюнак М. ПАШКЕВІЧА



ЯКУБ КОЛАС за працай у сваім рабочым габінэце.

# ТВОРЧАСЬЦЬ ЯКУБА КОЛАСА

АЛ. КУЧАР

Мы адзначаем пяцьдзесят год з дню нараджэньня народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. За пяцьдзесят гадоў жыцьця Я. Колас прайшоў складаны шлях разьвіцьця, прайшоў складаны і шматгадовы творчы шлях.

Я. Колас, як і Я. Купала, выступілі ў беларускай літаратуры ў пэрыяд рэвалюцыйнага ўздыму 1905—1906 г. Творчасьць Я. Коласа на першым сваім этапе ёсьць мастацкае выяўленьне настрояў, імкненьняў і жаданьняў беларускага сялянства ў пэрыяд рэвалюцыі 1905 году.

Калі ў самых раньніх сваіх творах Якуб Колас выступае з сумнымі ціха-лірычнымі, пасывістычнымі, вершамі, дзе ён кажа:

Нешчасьліва наша доля:
Нам нічога не дала,
Ня шукайце кветак у полі,
Бо вясна к нам ня прышла

дык, пад уплывам рэвалюцыі 1905 г., якая абудзіла і паклікала на змаганьне мільённыя масы сялянства, Якуб Колас узьнімае свой голас па абарону тых, каго „палкамі білі“, „секлі—катавалі“, на абарону „долі батрачкі“, на абарону тых, каго душаць паны і паліцыя. гняце падаткамі ўрад, на абарону прыгнечаных і прыдушаных фэадальнымі путамі і экспләатацыяй, — мас сялянства.

Пісьменьнік ад імя гэтага мільённага сялянства пагражае панству:

Багачы і панства,
І вы, усе брадзягі!
У бок з дарогі, каты,
Бойцеся сярмягі.

Мужык, што паўстаў на зьнішчэньне рэштак фэадалізму, на вызваленьне сябе з-пад эксплёатацыі кліча „на суд“ паноў, гэтых „катаў і зладзеяў“. Пісьменьнік гаворыць ад імя мужыка, які паўстаў супроць цара, пісьменьнік заклікае: „стрэльбы, хлопчыкі, бяры“.

Ці-ж мы, хлопцы,
рук ня маем?
Ці-ж нам сілы лёс
ня даў?

У выніку пранікненьня капіталізму ў сельскую гаспадарку, адбываецца распластаваньне сялянства. Сярэдняе сялянства ў працэсе пранікненьня капіталізму ў вёску папаўняе з аднаго боку бядняцкія пласты вёскі, знаходзіцца ў працэсе разбурэньня, паўпэрызацыі. З другога боку, нязначная колькасьць сярэдняга сялянства папаўняе капіталістычныя элемэнты вёскі. У творчасьці Якуба Коласа ў пэрыяд буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі мы маем выяўленьне гэтага працэсу разбурэньня і паўпэрызацыі сярэдняга сялянства. Селянін імкнецца да свайго, да ўласьніцкага. Ён прагне вызваліцца з-пад залежнасьці ад пана, ён прагне пабудаваць сабе сваю індывідуальную гаспадарку. І ў гэтым лічыць адзінае выйсьце для свайго існаваньня. Але, ва ўмовах царскага ураду, на ўмовах фэадальных пут, якія сваімі рэшткамі прыціскаюць селяніна, селянін нявхільна ня можа знайсьці сабе выйсьця з нэндзы, галечы голаду. І тут селянін павінен выступіць на змаганьне супроць рэштак фэадалізму, на змаганьне з царска-абшарніцкім урадам. Гэта знайшло сваё адлюстраваньне ў творчасьці Якуба Коласа.



Якуб Колас у маладосьці

Паражэньне рэвалюцыі 1905 г., наступленьне чорных дзён рэакцыі зрабіла сваё адлюстраваньне на творчасьці Якуба Коласа. Творчасьць Якуба Коласа ў гэтыя часы вызначаецца пасывістычнасьцю, лірычна-сумнымі настроямі, сантымэнтальнасьцю, адсутнасьцю закліку сялянскіх мас на змаганьне за сваё вызваленьне. Я. Колас у большасьці канстатуе, як сузіральнік, гаротнае і цяжкое жыцьцё селяніна, які выводзіць з хлева на падаткі апошнюю карову і нічым сам сабе ня можа дапамагчы, акрамя таго, што „у поле вышаў— паліліся з вачэй самі сьлёзы“, канстатуе жыцьцё мужыка, з якога: „цягнуць кроў з яго і жылы, надрываюць сілы“ і ў якога



Якуб Колас у 1913 г.

„У мазалёх рука“, канстатуе жыцьцё падняволенага роднага краю:

Край наш родны, бедна поле,
Ты глядзіш, як сірата.

Творчасьць Я. Коласа ў гэтыя часы пачынае набываць нацыяналістычныя адценьні, пачынаюць выступаць элемэнты ідэалёгіі „нашаніўства“. У творчасьці мы маем нацыяналістычнае захапленьне ўсім толькі беларускім наогул, роднымі песьнямі, „роднымі вобразамі“. Гэтымі вобразамі роднага краю Колас захоплены цалкам, увесь. Бачыць гэтыя вобразы ў мэтафізычным сьвятле, застыглымі, нярухомымі, пакутнымі і любіць іх менавіта за тое, што яны „родныя вобразы“.

Падпарадкаваньне Я. Коласа лібэральна-буржуазнай ідэалёгіі „Нашай нівы“ знаходзіць выяўленьне і ў такім выдатным творы Я. Коласа, як поэме „Новая зямля“, якая пачала ствараца ў 1911 годзе. Асноўныя ідэі гэтай паэмы ў тым, што селянін імкнецца да сваё гаспадаркі, да сваё ўласнасьці і ня можа яе дасягнуць. У „Новай зямлі“ селянін да свае гаспадаркі ўпартае імкнецца, хапаецца за яе і жыве ёю. Селянін адзіным сваім ідэалам лічыць „зямлю“, „сваю зямлю“.

А дзе-ж той выхад? Дзе збавеньне
З няволі цяжкай, з паланеньня?
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ральля—
То наймацнейшая аснова
І жыцьця першая умова.
Зямля ня зьменіць і ня здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля—аснова ўсёй айчыне.

Селянін прагнецца да гэтай „зямлі“ і ніколі не дасягае яе. „Новая зямля“ у творчасьці Я. Коласа ёсьць выдатная эпапэя. Значнасьць „Новай зямлі“ у вялікасьці тае ідэёвае праблемы, якую бярэ на вырашэньне Я. Колас. Значаньне гэтае эпопэі ў тым, што яна сынтэзуе настроі і імкненьні мас уласьніцкага сялянства. Аднак асноўнай хібай

гэтага твору зьяўляецца тое, што аўтар сам ня ўзьняўся вышэй настрояў гэтых уласьніцкіх мас сялянства.

Далейшы творчы і ідэёва-палітычны шлях Я. Коласа быў зьвязаны з буржуазна-нацыяналістычнай „Нашай нівай“. У творчасьці Я. Коласа ўсё больш і больш зэтушоўваюцца нацыянальна-вызваленчыя настроі і выступае нацыяналізм. Я. Колас змагаецца за „адраджэньне Беларусі“, за „адраджэньне бацькаўшчыны“. У пісьменьніка выяўляецца захапленьне адзіным, клясава непадзельным беларускім народам, ідэалізацыя хоць цёмнага, бруднага, жахлівага і паднявольнага жыцьця беларускай вёскі, але „свайго“ „роднага“. Я. Колас глядзіць на гэтую паднявольную вёску з ціхімі лірычнымі сьлязьмі. Ён усё больш і больш пачынае адыходзіць ад бадзёрага і актыўнага заклiку мужыка „браць стрэльбы“ на цара, які быў у яго ў пэрыяд рэвалюцыйнага ўздыму 1905 г.



Калёна Беларускай Акадэміі Навук на Кастрычніцкай дэманстрацыі ў Менску. У цэнтры акадэмік Якуб Колас.

У творчасьці заўважаецца містычнасьць, упадніцкая хваравітасьць, адрыў ад канкрэтнае рэчаіснасьці. Колас у сваёй творчасьці цяпер бярэ багата народных казак. Глыбока перагварае іх у творчасьці. Прысьвечаны гэтыя казкі ў пераважнасьці „адраджэньню жыватворчых крыніц бацькаўшчыны“ („Казкі жыцьця“).

Кастрычнікаўскую рэвалюцыю Я. Колас сустракае з пазыцый буржуазнага нацыяналізму, у лягеры буржуазнага нацыяналізму. (З гэтага пункту гледжаньня найбольш характэрны верш „Кавалі і другія“). Сымбалічнасьць у творчасьці Коласа дасягае свайго кульмінацыйнага пункту ў поэме „Сымон Музыка“. Поэма „Сымон Музыка“ у сымбалічнай форме адлюстроўвае адраджэньне Беларусі (вобраз дзяўчыны Ганны) праз нейкую містычную, таемную сілу. У гэтай поэме Я. Колас адыходзіць далёка ад жыцьця сялянскіх мас у надземнае хараство. У творы „Сымон Музыка“ выяўляецца і тое, што было характэрным для большасьці нашаніўскіх пісьменьнікаў—гэта наданьне місыянэрскае ролі „адраджэньня Беларусі“ інтэлігенту, мастаку. Менавіта такім і зьяўляецца Сымон Музыка. Толькі мастак здольны абудзіць, ажывіць краіну ад цяжкай і страшэннай хваробы.

У другім творы, напісаным у пэрыяд 1921-1922 г., у творы, дзе ўжо разгортваюцца і шырокія вобразы сялянскага жыцьця, жыцьця вясковай інтэлігенцыі — „У палескай глушы“ гэтая місыянэрская роля адраджэнца краіны аддаецца вясковай інтэлігенцыі — настаўніцтву, — якая „просветительством“, своеасаблівым „хождением в народ“ марыць абудзіць у народзе „нацыянальную сьвядомасьць“. Пра гэтае якраз і думаюць у аповесьці настаўнікі Лабановіч і Турсэвіч.

„Кожны народ мае свой гонар. Ангелец перад усім сьветам горда зазначае: я—ангелец. Тое самае скажа француз, немец, аўстрыяк, расіец і іншы прадстаўнік другой нацыі. А мы, беларусы, не адважаемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы. Бо на галаву беларускага народу, як нацыі, многа выліта памыяў, уся істота яго прыніжана і мова яго асьмеяна, у яго няма імя, няма твару“, — кажа Лабановіч і заклікае Трусэвіч ў падарожжа па Беларусі „абуджаць народ“.

„Мы-б абышлі шмат школ, бліжэй пазнаёміліся-б з настаўніцтвам, абудзілі цікавасьць да свайго краю. А самае важнае, мы раскатурхалі-б соннае балота нашага настаўніцтва, бо жыць так, як жывём мы, адарваныя адзін ад аднаго, жыць бяз жывой ідэі, ведаць адну толькі цесную школу і траціць час на карты і папойкі, што звычайна робіць наш брат, так жыць няможна, бо для гэтага трэба наўперад задушыць у сабе голас сумленьня, голас доўгу перад народам“.

Уплывы буржуазна-нацыяналістычнай ідэалёгіі былі на творчасьць Я. Коласа і ў пэрыяд 1922 г.—1925 г.

Разам з посьпехамі сацыялістычнага будаўніцтва пачынаецца працэс набліжэньня Я. Коласа да задач удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. Я. Колас цяпер прымае ўжо Кастрычніцкую рэвалюцыю, але галоўным чынам, як спачувальнік, пасыўны сузіральнік, а ня ўдзельнік яе.

У 1926—1927 г. мы назіраем у творчасьці Я. Коласа вельмі значны пералом. Я. Колас напісаў аповесьць „На прасторах жыцьця“, якая выражала працэсы руху вёскі да новага, сацыялістычнага. Аповесьць паказвае жыцьцё вёскі аднаўленчага пэрыяду, у якой зьяўляюцца першыя парасткі новай культуры і сацыялістычнай будаўнічай работы. Паказана жыцьцё рабфаку, савецкага студэнцтва, вясковай моладзі, вясковага камсамолу, яго грамадзка-карысная работа, якая выяўляецца ў мэліярацыі балот. Хаця і тут мы яшчэ маем спэцыфічную і характэрную для Я. Коласа фэтышызацыю „навукі“, нешта накшталт той місыянэрскай ролі інтэлігенцыі ў адраджэньні Беларусі, як і ў „Палескай глушы“, але пра аповесьць „На прасторах жыцьця“ мы можам з упэўненасьцю сказаць, што для беларускай рэвалюцыйнай савецкай літаратуры і ў прыватнасьці для творчага шляху Я. Коласа гэтая аповесьць была выдатным зьявішчам.

Далейшы творчы шлях Я. Коласа з памылкамі, з хістаньнямі. Але ён паказвае, што пісьменьнік пачынае ўсё больш актыўна і актыўна ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве.

Апошнія творы Я. Колас тэматычна зьвязаны цалкам з нашым сацыялістычным будаўніцтвам (з гэтых твораў вызначаюцца аповесьць „Адшчапенец“, частка паэмы „На шляхох волі“), працэсамі калектывізацыі, перапрацоўкі селяніна—дробнага ўласьніка.

З ліку гэтых твораў асабліва значэньне мае аповесьць „Адшчапенец“ таму, што гэтая аповесьць працэсы калектывізацыі паказвае на шаблонна. Аповесьць ускрывае складнейшыя хістаньні селяніна - уласьніка на яго шляхох да калектыўнае гаспадаркі.

Творчасьць Я. Коласа ў мастацкім сэнсе мае вялікія і глыбокія магчымасьці для свайго далейшага разьвіцьця, для поўнага, глыбокага і праўдзівага адлюстраваньня ўсяе складанасьці нашае вялікае і гераічнае эпохі.

**На аснове Ленінскай нацыянальнай палітыкі будзем заўзята працягваць справу стварэньня нацыянальных формаў і пралетарскіх зьместам культур.**
**За Магнітабуды мастацтва, за вялікую сацыялістычную літаратуру.**

АЛЕСЬ ЗВОНАК

# ЛІРЫКА НЭРВАЎ

I

У бесталачы будні́х дзён і спраў
Губляюцца сябры і аднагодкі . .
. . .У фарбы сноў бязьлітасная яў
Ўрываецца знаёмаю паходкай.

Яна іскрыцца ў яркасьці вачэй,
Ў прысьпешанай хадзе і жвавых рухах.
І ты ляці насустрач ёй хутчэй
І ў радасьці спатканьня цісьні рукі.

І далікатнасьцю прыкрыўшы фальш,
Маной заштопаўшы душы прарэхі,
Зьдзіўляйся, што ня кратае амаль
Цябе ўласных слоў глухое рэха...

І ўжо напэўнае здаецца ёй
Твае размовы—пахам рамантычным,
А холад філёзофіі тваёй
Падфарбаванаю ружовасьцю вадзічкай.

Таму й брыдзеш сутоньнем вечароў
Па вуліцах узрушаных маскоўскіх.
Няхай твой шлях і сэрца твайго кроў
Здадуцца каму небудзь шляхам коўзкім.

II

Вось так і стрэча гэтая прышла,
Як нейкае фатальнае здарэньне.
Мне на плячо рука твая лягла
І ў вочы—воч блакітнае мігценьне.

На прывітаньне што я адкажу? —
Маё натхненьне—гэта чэмер горкі.
Ты затуманеных вачэй ня жмур, —
Ня будзе задушэўнае гаворкі.

Я чорствы стаў, бы камень цяжкі лёг
На лёгкасьць дум, на крыльлі маладосьці.
Так гладзь вазёрную зімовы першы лёд
Пад сьнежаньскую цішу сьцюжа мосьціць

Я больш ня мкнуся на́лапам угору,
Бо за плячыма груз пражытых год,
Бо крые сьмех прыглушаную горач,
Стракатасьць стрэч, знаёмстваў і прыгод.

Сумбур лірычны. рамантычны брэд
Фантасмагорый дзіўных нечаканасьць,
Усё што ставіцца пээту ў грэх,
Усе яго балючыя шуканьні,

Я аддаю эпосе на касьцёр,
Як колісьці вялікі Боцьцічэлі.
Хай кожны твар гарыць жывым жыцьцём,
А не стракатай акварэляй.

III

Пакінь мяне, праклятая мана,
На чорны лес сыйдзі маё нявер'е!
Лягла дарога простая адна,
Па ёй наканавана мілі мераць...

Няхай барозны часу моршчаць лоб
І хай на скронях праглядае срэбра,
Мы будзем помніць: шквалам нас нясло
У ночы, ў бездараж, праз горы і праз
грэблі.

Шкадуйма-ж часу для пустых забаў,
Не падсыпайма ў радасьць кпінаў
вострасьць,—
Так шмат і значных і нязначных спраў
І цяжкасьцяй няпройдзеныя вёрсты.

Навокал сьвет, як вогненны вулькан,
Гісторыя рыхтуе грозны выбух,
А нас сьціскае дробязяй аркан.
І асабістых спраў цяжкія глыбы.

Глухая боль параненых гадоў
Ад нашых слоў яшчэ часамі вее,
Але муры нябачаных будоў
Нясуць з сабою перамогі веліч.

І можа тут крыві і сэрца гул,
І закаханасьць позьняй маладосьці,
І кволае дрыжэньне рук і губ, —
У гэты час—няпрошаныя госьці?!

IV

. . . Вячэрні змрок агортае панэль,
Людзкую суталаку, шэрыя муры.
І грукат здушаны і неўгамонны рытм,—
А ты ідзеш. . . І вуліца—тунэль
Кідае цені з вокан на панэль. . .

Ідзі. . . Загублены у рупнай грамадзе,
Твой шлях завілістым пункцірам значан,
Скрозь адвячорак, раньне, ноч і дзень,
Скрозь посьпехі й юнацкія няўдачы. . .

І можа быць другім зусім няўцям,
Што ты—ігра лірычнага ўяўленьня,
Адбітак нерэальнага быцьця,
Выпадак вокамгненнага натхненьня. . .

Халодны верш хай не кране цябе,
Як і мае балючыя трывогі,
Бо ты на многа ўдумней і глыбей
Нат погляд твой спакойны больш
і строгі. . .

Так падкрадаецца нячутна ўзрост
З гадамі стомы, боек, справы, працы,
Тымчасам пракладаем новы мост,
Але не да паветраных палацаў.

Яго рабіць патрэбны змагары
Суцэльна падуладныя загаду.
І часам найлірычнейшы парыў
І часам рамантычная бравада
Яму, як мёртваму спагада.

Я бачу іх сяброў і дружбакоў,
Мае равесьнікі пашлі ня тэй дарогай,
Эпоха нам выносіць свой дакор
Так мала зроблена, так абяцана многа.

V

Шуміць увечары амоднены Арбат,
Блішчыць асфальт паліраваным люстрам
Са стромкіх стрэх каменнага гарба
Зьвініць капеж сакавіка салютам.

Ідзе вясна... Яе бадзёры гул
Над гмахамі, над плошчамі сталіцы
Зганяе халаджавую смугу
Сакавіковай першай гліцай.

І тут нічым уздыму не скаваць
Ён урываецца ў трамвайны скрогат,
Ён згладжвае маршчынкі з твараў строгіх,
І маладзее ад яго Масква.

І маладзею я, і ты, і сотні тысяч
Такіх-жа неўгамонных, маладых,
Каторых гоман, песьні і уздым,
Як бомба разрываюць цішу.

Яны ідуць... Ад ног шуршыць асфальт,
Іх галасы глытае веліч гмахаў.
Такой вясны ад часу Манамаха
Напэўна йшчэ ня бачыла Масква.

Масква! Масква! Муры твайго Крамля,
Баярскага бязладзьдзя старадаўнасьць,
Зьмяце бы йржавыя сьляды паданьняў
Абмытая Кастрычнікам зямля.

Бо йдзе эпоха жорсткаю ступой,
Апранутая ў камень і жалеза.
Бо йдзе эпоха у асгатні бой
Ўздымаючы над сьветам вецер сьвежы.

І ёй ня трэба салодкагучнай леры,
Ёй трэба голас на ўсю сілу лёгкіх,
Ня піск струны,—арліны ў небе клёкат
Пад небасхілам нашым шэрым.

Бо дні ідуць пад будаўнічы грохат,
Бо сьвет стары ідзе ў пераліцоўку. . .
А мы?—сэзоньнікі вялікае эпохі,
Чарнарабочыя мастацкіх распрацовак,
Для муляроў наступных месім гліну
А ці паклалі самі хоць цагліну?
. . . . . . . . . . . . . .

Дык ты вачэй задуманых ня жмур,
Калі у шчырасьці адчуеш прысмак горкі
Ты зразумей і ня шкадуй чаму
Ня вышла задушэўнае гаворкі. . .

Яшчэ скажу: згані тугу з вачэй,
Хай зірк іх будзе чысты і суровы,
Як зор сьвятло ў поцемку начэй,
Як шчырасьцю народжанае слова.

# V Усебеларуская мастацкая выстаўка

Я. ШАРАХОЎСКІ



Я. Ахрэмчык — 2-гі зьезд РСДРП (эскіз)

Выключны і непаўторны час. Упяршыню ў гісторыі арганізаваная воля мільёнаў накіравана на заваёву лепшай будучыні. Гераічная кляса і яе авангард, зьлітаваныя адзінай вялікай ідэяй, заняты гіганцкім будаўніцтвам. На аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі раней прыгнечаныя нацыі ствараюць вялікія каштоўнасьці нацыянальных формай і сацыялістычных зьместам культур.

З часу IV-й Усебеларускай мастацкай выстаўкі прайшоў год. Ён быў годам завяршэньня пляну вялікіх работ, годам новых перамог сацыялістычнага будаўніцтва. Разам з далейшым разгортваньнем культурнай рэвалюцыі вырасла за гэты год і выяўленчае мастацтва. Вырасла яно і паводле ідэйнай накіраванасьці, і паводле тэматыкі, і паводле мастацкай якасьці. Пра гэта яскрава сьведчыць прысьвечаная пятнаццатай гадавіне Кастрычніцкае Рэвалюцыі, V-я Ўсебеларуская мастацкая выстаўка, якая адчынілася 13 лістапада ў галоўным корпусе унівэрсытэцкага гарадка.

З прадукцыі, што прадстаўлена на выстаўцы, асабліва вылучаюцца працы трох мастакоў—Ахрэмчыка, Пашкевіча і Семашкевіча.

Тав. Ахрэмчык прадстаўлены на выстаўцы чатырма працамі—эскізам да карціны на гістарычную тэму „Другі зьезд РСДРП“, двумя партрэтамі (Даркевіча і піяніста Шэйна) і яшчэ адным эскізам. Паводле творчага мэтаду т. Ахрэмчык—рэаліст, яго працы напісаны ў рэалістычным пляне. У гэтым дачыненьні яны зьяўляюцца лёгічным працягам творчай лініі, якая намецілася ўжо ў яго мінулагодніх працах („Торфарасправоўкі“, партрэт А. Александровіча), з якімі ён выступаў на IV-й выстаўцы. Цяперашнія яго працы паказваюць, што як мастак т. Ахрэмчык значна вырас. Перш за ўсё трэба адзначыць ідэйны рост, паглыбленую прапрацоўку вобраза, імкненьне не зафіксаваць яго паводле непасрэднага ўражаньня, не фактаграфічна намаляваць, а ідэйна раскрыць, асьвятліць знутры пад кутом гледжаньня пэўнай ідэі, з тым, каб стварыць найбольш паўнацэнны і паўнакроўны вобраз. Па-другое, трэба адзначыць рост тэхнічных сродкаў, рост майстэрства малюнка, кампазыцыі, уменьня знайсьці гаму фарбаў, патрэбную для выражэньня характару, для найлепшага выяўленьня данага вобраза.

Як станоўчы момант, яшчэ трэба адзначыць тое, што галоўная ўстаноўка ў т. Ахрэмчыка на чалавека, на стварэньне поўнакроўнага чалавечага вобраза. І калі т. Ахрэмчык разглядае працу над фактычна нэйтральным матэрыялам (Даркевіч, Шэйн) не як асноўную працу, а як неабходную творчую ступень, як сродак да аўладаньня натураю, уменьнем характэрызаваць чалавека, раскрыць яго сутнасьць з тым, каб у далейшым перайсьці на стварэньне тыпізаваных і ў той-жа час глыбока індывідуальных вобразаў людзей сацыялістычнага будаўніцтва, вобразаў узьнятых да ступені філёзофскіх абагульненьняў, дык можна з упэўненасьцю сказаць, што ўжо ў недалёкім будучым ён зможа даць працы вялікай рэвалюцыйнай значымасьці.

З усіх партрэтаў прадстаўленых на выстаўцы лепшымі бяссумненьня зьяўляюцца партрэты працы т. Ахрэмчыка. Асабліва прыцягвае ўвагу партрэт піяніста Шэйна. Партрэт кампазыцыйна надзвычайна дасьціпна пабудаваны і вызначаецца багацьцем фарбаў. Паводле багацьця гамы фарбаў гэта мабыць самая выдатная праца з усяе выстаўкі. Асноўны настрой карціне даюць сьветлыя жыцьцярадасныя, цёплыя таны. Удала выбраны фон, нешта накшталт куліс тэатру. Гэтым даецца намёк на тое, што Шэйн—піяніст, чалавек мастацтва. Ахрэмчык тут добра скарыстаў прыём лёкалізацыі абставін. На гэтым партрэце выяўляецца ўменьне т. Ахрэмчыка характарызаваць чалавека.

Крыху слабей партрэт Даркевіча. Фарбавая гама ў ім больш бедная, фарбы не такія жывыя, напісаны ён у цёмных чырвоных тонах. Але ўсё-ж трэба сказаць, што асноўны тон карціны, яе колёрыт добра ўвязваецца з створаным Ахрэмчыкам вобразам Даркевіча. У т. Ахрэмчыка ёсьць мастацкае чуцьцё, ён умее знайсьці фарбы, якія найбольш прыдатны для выражэньня характару данага чалавека. Фарба ў яго не знадворная форма, а сродак для раскрыцьця вобраза.

Найбольш значная па замыслу праца—эскіз „2-гі зьезд РСДРП“. Тэма гэтае працы надзвычайна складаная і цяжкая для выкананьня. Але тым больш заслугоўвае ўвагі адважная спроба мастака паказаць адну з важнейшых старонак гісторыі партыі. Ахрэмчыку ў гэтай працы прышлося ісьці шляхам сынтэзу, шляхам вывучэньня гістарычных матэрыялаў, фото-партрэтаў удзельнікаў і г. д.

У гэтым сэнсе ў мастака былі цяжкасьці ў працы, бо ніякае фото, якое-б удалае яно ні было, ня можа выразіць самага галоўнага для мастака—характару чалавека, яго ўнутраны зьмест. Перад намі вядома яшчэ толькі эскіз, але калі гаварыць па матар'ялу эскізу, то трэба сказаць, што адзначаныя цяжкасьці знайшлі сваё выражэньне ў тым, што вобразы карціны недастаткова багаты ўнутраным зьместам, што яны, як гэта адзначаў т. Глебка, недастаткова тыпізаваны і і ў той-жа час не напоўнены індывідуальным, толькі ім уласьцівым зьместам. Справа мастака была ня толькі праз кампазыцыю, праз разьмяшчэньне фігур паказаць, што большасьць ідзе за Леніным, а меншасьць за меншавікамі, а галоўным чынам, паказаць, як кожны з удзельнікаў праламляў праз сваю індывідуальнасьць, свой сьветапогляд спрэчкі на зьезьдзе і як у залежнасьці ад гэтага ён далучаўся да Леніна, ці да сацыялздраднікаў, меншавікоў. Пры такім надыходзе кожны вобраз жыў-бы сваім асаблівым жыцьцём і ў той-жа час быў-бы падпарадкаваны асноўнай ідэі карціны (раскол партыі). Гэта дала-б найбольш поўнае, найбольш багатае выяўленьне вобразаў. У карціне Ахрэмчык здолеў стварыць гістарычную пэрспэктыву, адразу бачыш, што на карціне людзі эпохі першай рэвалюцыі. У заключэньне хацелася б, сказаць, што т. Ахрэмчыку трэба больш размаху ў працы больш тэмпэрамэнту, больш унутранага агню. Яго карціны надзвычайна матэрыяльны і калі гэта матэрыяльнасьць ня будзе прасякнута напружаным ідэйным зьместам, то ў далейшым у т. Ахрэмчыка, можа выявіцца тэндэнцыя да натуралізму. А ў Ахрэмчыку хочацца бачыць іменна рэаліста, тут пэрспэктывы яго творчага разьвіцьця.

Найбольшая ўдача на гэтай выстаўцы выпала на долю Пашкевіча. І выпала па праву. Мастак упарта працуе над сабой, над пошукамі вялікага стылю, над выпрацоўкай творчай індывідуальнасьці. Ад мінулагодніх акадэмічных уплываў, рэмбрандаўскіх рэмінісцэнцый не засталося і сьледа. Пашкевіч ступіў на самастойны шлях і дамогся самага галоўнага, ён знайшоў нешта сваё.



А. Кастэлянскі
Мэханічны цэх зав. Варашылава

Пашкевіч, як і Ахрэмчык, пайшоў па шляху рэалістычнае творчасьці і гэта зьяўляецца станоўчым фактарам. Яго стылёвая накіраванасьць супадае з стылёвай накіраванасьцю сацыялістычнага мастацтва, бо бясспрэчна, што сацыялістычнае мастацтва будзе разьвівацца пад знакам рэалізму.

Пашкевіч прадстаўлены на выстаўцы чатырмя карцінамі і шэрагам партрэтных малюнкаў. З чатырох карцін тры напісаны на тэму „Партызаны“. І гэта сьведчыць ня толькі аб тэматычнай абмежаванасьці мастака, сколькі аб упартай працы над выяўленьнем, раскрыцьцём вобраза. Гэта асабліва будзе зразумела, калі мы згадаем, што яшчэ на IV-й Усебеларускай мастацкай выстаўцы былі прадстаўлены яго малюнкі на партызанскім матэрыяле. У сваёй творчай працы Пашкевіч прытрымліваецца прынцыпу—лепш меней, ды лепей. У сэнсе настойлівасьці ў працы над раскрыцьцём вобраза ён сьледуе традыцыям вялікіх майстроў. Звычайна буйныя мастакі, задумаўшы значны твор, прагна шукалі формы найбольш адэкватнай ідэйнаму зьместу вобразаў. Пошукі ішлі па лініі кампазыцыі і па лініі тыпажу, і па лініі фарбаў. Часта прыходзілася рабіць па некалькі эскізаў. У гэтым дачыненьні характарнай зьяўляецца хаця-бы праца Рэпіна над „Запарожцамі“.

Па ступені мастацкай праўдзівасьці і паўнаты раскрыцьця вобразаў партызан карціны Пашкевіча можна разьмясьціць у такой пасьлядоўнасьці: „Партызаны“ (два узброеных партызаны), „Партызаны“ (група) і „На варце“. Першая карціна робіць уражаньне найбольш тэхнічна закончанай. У ёй цяжка знайсьці дэфэкты, якія-б супярэчылі асноўнаму замыслу мастака. Тыпізаваныя фігуры партызан (селянін і рабочы), як гэта і патрэбна для глыбока-мастацкага вобраза, маюць і сваю індывідуальнасьць. Карціна добра скампанавана. Палажэньне фігур натуральнае, не нацягнутае. Рабочы седзячы на пні чытае нейкую важную паперку, барадаты селянін стаіць збоку і пільна сочыць за чытаньнем. Прырода на карціне надзвычайна багатая, поўная жыцьцёвых сокаў. Яе рэалістычнаму выяўленьню значна дапамагае тое, што ўнізу ў левым куту карціны дана дэталізаваная расьліннасьць. Гэта-ж адносіцца і да асьветленай лістоты кустоў, якія знаходзяцца глыбей у пэрспэктыве і таму менш дэталізаваны. Я не мастак і пра выстаўку пішу не як спэцыяліст, але мне здаецца, што пярэдні плян у карціне абавязкова павінен быць дэталізаваны. Глыбей, у пэрспэктыве могуць быць дэталізаваны толькі ўдарныя мясьціны. Ва ўсякім разе на гэтым прынцыпе павінна будавацца тэхніка рэалістычнага мастацтва.

Будучы тэхнічна найбольш закончанай, усё-ж гэта карціна, у сэнсе раскрыцьця ідэйнага зьместу вобразаў партызан,—самая слабая з карцін Пашкевіча на партызанскім матэрыяле. У гэтай карціне ён не знайшоў спэцыфікі вобраза партызана, у яго вобразах няма ўнутранай цьвёрдасьці, зацятасьці. Можна нават падумаць, што гэта не партызаны, а паляўнічыя. Такому ўспрыйманьню карціны спрыяюць і мяккія, расслабляючыя таны прыроды. Прыроду трэба было зрабіць больш кампактнай, матэрыялізаванай.

У другой карціне „Партызаны“ (група) моцна адчуваюцца элемэнты эскізнасьці, яна недапрацавана.

Перш за ўсё ў ёй ёсьць пагрэшнасьці супроць закону пэрспэктывы. Гэта выражаецца ў ня зусім удалым асьвятленьні. Сьветлавыя плямы і на пярэднім пл не і ў глыбіні, на самых фігурах аднолькавых памераў і гэта разьбівае пэрспэктыву. Да таго-ж ні пярэдні плян ні агульны не дэталізаваны. Каб гэта было зроблена, дык ўражаньне пэрспэктыўнай глыбіні даваў-бы параўнальны памер дэталяў, напрыклад, лісьцяў.

Паводле прынцыпу кампазыцыі карціна нагадвае рэпінскіх „Запарожцаў“. Пра запазычаньне канешна гаварыць ня прыходзіцца, твор Пашкевіча арыгінальны, практычнае кампазыцыйнае вырашэньне групы самастойнае. Партызаны паказаны за абмеркаваньнем пляну чарговай апэрацыі. Яны ўпарта думаюць: як быць, што рабіць, як адпомсьціць ворагу? Кожны з іх думае па свойму, у кожнага свае адносіны да справы, вобразы будучы тыповымі індывідуалізаваны. Мэтад вырашэньня групы заслугоўвае ўвагі. Пашкевіч не пайшоў па шляху шаблёну, а пайшоў па шляху жыцьцёвага, рэалістычнага паказу. Ідзе абмеркаваньне чарговай апэрацыі і тут-жа адзін партызан сьпіць, а другі заняты нейкай дробнаю справаю. Гэты факт мае яшчэ і другі бок, у ім выражаецца дух партызаншчыны, бо партызан больш самастойны ў дзеяньні, чым скажам салдат рэгулярнае арміі.

У гэтай карціне Пашкевічу больш ўдалася ўнутраная характарыстыка вобразаў. Найбольш акрэсьлены характар, як гэта і патрэбна паводле замыслу, мае партызан-правадыр. Трактоўка правадыра ў Пашкевіча надзвычайна цікавая. Гэта не чалавек ад прыроды выключных валявых якасьцяй, для якога кіраваньне звыклая справа, а чалавек вялікага клясавага тэмпэрамэнту, якога высунула на ролю правадыра сама маса. Відаць, што гэта ўжо спрактыкаваны ў клясавых бойках чалавек, які выразна ведае свае клясавыя задачы. І асабліва характарны вочы. Яны запалены вялікай клясавай ненавісьцю, рашучасьцю змагацца да канца. Вочы, як сродак унутранай, псыхолёгічна-ідэйнай характарыстыкі ў вобразе правадыра выкарыстаны максымальна.

Ня ўсе вобразы гэтае карціны Пашкевічам да канца прадуманы. Сярод моцна зробленых тыпізаваных фігур ёсьць некалькі бледных, нявыразных. Пра чалавека, які заняты дробнаю справаю, нават цяжка сказаць мужчына гэта, ці жанчына. Каля селяніна з падвязаным вокам таксама сядзіць партызан з нехарактарызаваным тварам. Рашаючай памылкай гэтае карціны зьяўляецца тое, што ў ёй прырода пераважвае чалавека. Прырода дана ў такіх каляровых і кампактных фарбах, што яна пабівае чалавечыя фігуры, даныя ў сьветлых, разраджаных, дэматэрыялізаваных танах. А між тым, галоўнае ў гэтай карціне—людзі.

Найбольш удалаю ў сэнсе стварэньня вобраза партызана зьяўляецца карціна „На варце“. Перш за ўсё трэба адзначыць глыбока арыгінальнае вырашэньне тэмы. З словам „на варце“ у нас звычайна асацыюецца слова „стаіць“. Пашкевіч ухіліўся ад шаблёну, партызан у яго сядзіць. І сядзіць ён не адзіч, а з сабакам. Гэтым падкрэсьліваецца спэцыфіка партызанскае барацьбы, тое, што двор партызана ня так далёка. У сэнсе ўнутранай характарыстыкі і жывапісных сродкаў гэта фігура мацней, чым фігура правадыра на папярэдняй карціне. У партызана „На варце“ асабліва моцна выражана ўнутраная зацятасьць, цьвёрдасьць. У ім адчуваецца чалавек, які доўга моўчкі, з пакораю зносіў уціск, унутры накапліваючы ненавісьць, пакуль яна не прарвалася паводкаю помсты. Ён узяў у рукі вінтоўку і будзе ўпарта змагацца, але ў ім яшчэ жыве недаверлівасьць да людзей, ён яшчэ з апаскаю прыглядваецца да сяброў па змаганьні, ён яшчэ думае па-свойму.



А. Забораў — Новыя людзі—новы горад

Пра настарожанасьць. Зразумела, калі даць настарожанасьць ва ўсім, дык яна ня будзе адчувацца. Тут дзейнічае закон кантрасту. Іменна таму Пашкевіч імкнуўся пры спакойнай паставе фігуры даць настарожанасьць праз выраз вачэй і твару. І трэба сказаць, што апошняе яму цалкам удалося. Пастава-ж фігуры выйшла залішне статычнай, Пашкевіч пераступіў патрэбную мяжу. Хутчэй за ўсё ў стварэньні такога ўражаньня галоўную ролю адыгрываюць у бязвольлі апушчаныя на калені рукі.

Не малае значэньне ў далейшым творчым разьвіцьці Пашкевіча будзе мець праблема тэматыкі. Пра гэта сыгналізуюць няўдалыя працы: „Лесанарыхтоўкі" і „Юбілейнае чэстваньне паэты Александровіча". Пашкевічу трэба сур'ёзна падумаць хаця-бы на матэрыяле партызанскіх карцін, над тым, што яму лепш удаецца, над тым, якія элемэнты стылю гэтых карцін ён павінен разьвіваць у далейшым.

З партрэтных малюнкаў найбольш удаліся: „Сталяр" і „Кравец". Гэта яшчэ раз пацьвярджае здольнасьць Пашкевіча даваць тыпізаваныя фігуры. Тэхнічна гэтыя партрэты зроблены цікава і арыгінальна.

Т. Т. Ахрэмчык і Пашкевіч у гэтым годзе маюць значныя дасягненьні. У іх выпрацоўваецца ўласная тэхніка, ужо ёсьць элемэнты ўласнага стылю. Абодвых іх аб'ядноўвае ўстаноўка на паказ канкрэтнага, жывога клясавага чалавека. Сфэра іхняга мастацтва ня сьвет мёртвых рэчаў, а сьвет жывых людзей. Перад імі стаіць адказьнейшая задача стварэньня тыпізаваных вобразаў, герояў сацыялістычнага будаўніцтва. І калі т. т. Ахрэмчык і Пашкевіч маюць унутры сябе сапраўдную меру сваім карцінам, калі яны добра разумеюць неабходнасьць далейшай упартай працы пад сабою, над выпрацоўкай глыбокага матэрыялістычнага сьветапогляду, над распрацоўкай у творчай практыцы праблем і прынцыпаў асноўнага стылю рэвалюцыйнага мастацтва—сацыялістычнага рэалізму, дык не без падстаў можна чакаць, што на наступную выстаўку яны дадуць яшчэ больш каштоўныя працы.

Некалькі асобна стаіць т. Семашкевіч. Ён заняў пазыцыю ў баку ад рэалістычнага мастацтва. Семашкевіч—мастак з ужо досыць вызначаным творчым профілем. Па якасьці і сьвежасьці фарбаў яго працы вылучаюцца з усяе выстаўкі. Напісаны яны пераважна ў зялёна-сініх халодных танах. Мастак надзвычайна арыгінальны, бясспрэчна са здольнасьцямі, але ідзе ён па няправільнаму творчаму шляху.

Сапраўды, што характарызуе творчы мэтад т. Семашкевіча?

Перш за ўсё ён імкнецца даць карціне асноўны настрой, выразіць праз яе пэўную ідэю. Робіць ён гэта не праз паказ канкрэтнага клясавага чалавека, як носьбіта гэтае ідэі, а праз характарыстыку пад кутом гледжаньня пэўнай ідэі пэйзажу. Чалавек, канкрэтны, клясавы чалавек Семашкевіча фактычна ня цікавіць. Галоўная ўстаноўка ў яго на пэйзаж і там, дзе ў яго паказаны людзі, яны не заўсёды абавязковы, бо праз іх нічога не выражаецца, яны зьяўляюцца ўмоўнымі знакамі і ў некаторых карцінах з посьпехам могуць быць заменены зьвярамі, бярозкамі і г. д. Напрыклад, калі-б у карціне „Паляўнічы" (мядзьведнік) чалавека і мядзьведзя зьняць і намаляваць якога небудзь мастадонта, або таго-ж мядзьведзя ў барацьбе з ваўкамі за здабычу, ад гэтага агульны характар карціны не зьмяніўся-б. Мы мелі-б усё тую-ж першабытна-заалёгічную зямлю. У карціне „Чырвоны сьцяг", калі-б замест двух польскіх афіцэраў намаляваць ваўка, які надрыўна вые, гледзячы на злавесна-цёмнае неба над Польшчай, карціна ад гэтага страціла-бы надзвычайна мала. Ужо з гэтых прыкладаў выразна відаць, што Семашкевіч бярэ настолькі абстрактныя, агульныя ідэі, што для іх выражэньня досыць пэйзажных элемэнтаў г. зн. тэма, як канкрэтна-клясавая тэма ў яго зьведзена на нішто. У тых выпадках, калі ён бярэ канкрэтныя тэмы і хоча ў мастацкіх вобразах раскрыць іх ідэйны зьмест,



Р. Семашкевіч — Чырвоная армія—апора СССР

самы яго творчы мэтад, формалістычная ўстаноўка на арыгінальнасьць і нечаканасьць спалучэньня фарбаў і толькі прыводзіць да таго, што рэвалюцыйны зьмест у яго карцінах выхалашчваецца. Гэта добра відаць на карціне „Чырвоная армія—апора СССР".

Армія—гэта ў першую чаргу людзі. І паказ арміі гэта ў першую чаргу паказ жывых, канкрэтных, клясавых людзей. А што мы бачым у Семашкевіча? Яго карціна напісана ў тым-жа пэйзажным пляне, у ёй няма ўстаноўкі на чалавека. У Семашкевіча чырвонаармейцы больш нагадваюць лялечных салдацікаў, чым байцоў Чырвонай арміі.

Фактычна тэматыкі ў Семашкевіча няма, бо тэма ў яго зьяўляецца толькі повадам для таго, або іншага спалучэньня фарбаў. У яго форма адлучылася ад зьместу. Адсюль тая лёгкасьць з якой Семашкевіч малюе свае карціны. Яму ня прыходзіцца шмат думаць над кампазыцыяй карціны, ня прыходзіцца шмат працаваць над стварэньнем тыпізаваных, узьнятых да ступені філёзофскіх абагульненьняў чалавечых вобразаў. У т. Семашкевіча ня столькі творчая праца, колькі выраб стандартных карцін, своеасаблівае (карыкатурнае) бізнесмэнства. У яго карцінах няма ні вялікіх ідэй, ні вялікіх замыслаў, галоўнае для яго тэхніка, ігра фарбаў і колераў. Стандарт у кампазыцыйным вырашэньні карцін, устаноўка на колькасьць, адсутнасьць сур'ёзных замыслаў прыводзяць Семашкевіча да паўтарэньня амаль у кожнай карціне такога прымітыву, як птушкі на палёце, як бярозкі з абламаным верцьцем.

Для творчае працы паводле цяперашняга творчага мэтаду Семашкевіча, дастаткова голае тэхнікі, не патрэбна ніякіх ідэйных прынцыпаў, ніякага сьветапогляду. Матэрыял, тэма для яго ня мае ніякага значэньня, ён з аднолькавым посьпехам можа працаваць на любым матэрыяле, на любой тэматыцы. І гэта зусім не таму, што ён такі унівэрсальны мастак, а проста



М. Пашкевіч — Партызаны

таму, што ў яго буржуазна-фармалістычны творчы мэтад, установка на форму і поўнае ігнараваньне зьместу. Калі падыходзіць да ацэнкі карцін Семашкевіча з пункту гледжаньня сапраўднае творчасьці, дык прыдзецца сказаць, што ён зараз знаходзіцца ў творчым тупіку. І ён ня выйдзе з яго да таго часу, пакуль сур'ёзна не задумаецца над сваімі далейшымі творчымі шляхамі і не пакіне выраб стандартных блізкіх да лубка карцін. А працаваць па-сапраўднаму, па-сур'ёзнаму Семашкевіч мог-бы, на гэта паказваюць яго працы „Партрэт жанчыны" і „Піянэр".

Значны рост заўважваецца ў гэтым годзе ў маладога мастака т. Заборава. Яго вялікае палатно „Новы горад—новыя людзі" заслугоўвае ўвагі. Карціна паказвае значны рост мастацкае тэхнікі, мастацкіх сродкаў Як гэта і трэба паводле замыслу, карціна дае радасны, аптымістычны настрой. У ёй пераважваюць сьветлыя таны, фарбавая гама досыць багатая. Але ў цэлым карціна выйшла ўсё-ж няўдалая. Забораў узяў вялікую, складаную, але яшчэ непасільную для яго тэму. Асноўная яго няўдача ў тым, што ён ня змог даць новых людзей. Фактычна ў яго атрымаліся ня новыя людзі, а пародыя на мадон эпохі адраджэньня. Новы горад задуманы ў яго цікава, як азялёнены горад, горад садоў і паркаў, але атрымаўся ён нерэальным. Ён не дае ўражаньня сапраўднае рэчаіснасьці, сапраўднага жыцьця. Кампазыцыйна карціна распадаецца на дзьве часткі—горад і людзі на пярэднім пляне ня ўвязваюцца ў адно цэлае. Атрымалася гэта з прычыны няправільнага пэрспэктыўнага вырашэньня карціны. У сэнсе тыпізацыі вобразаў, а таксама іх псыхалёгічнай характарыстыкі, яму больш удалася карціна „Аўладаем тэхнікай", хаця тэхнічна яна стаіць значна ніжэй. Добра тое, што ў т. Заборава ёсьць установка на канкрэтны паказ чалавека. Забораў не здавольваецца ўмоўным знакам, бяскроўнай схэмай чалавека, а імкнецца даць яго канкрэтна, сакавіта, з упорам на выяўленьне яго ўнутранага ідэйнага зьместу. У гэтым дачыненьні мастак стаіць на правільным шляху і бяссумненна, што пры ўпартай вучобе, як у сэнсе авалоданьня мастацкаю тэхнікай, так і ў сэнсе выпрацоўкі глыбокага ленінскага сьветапогляду, ён зможа даць больш каштоўныя працы.

У працах т.т. Касталянскага, Красоўскага, Даўгяла ёсьць шмат агульнага. І падобнасьць гэта хутчэй—негатыўнага парадку. Галоўнымі хібамі іх прац зьяўляюцца шэрасьць, нуднасьць фарбаў, а таксама няўменьне паказаць канкрэтнага клясавага чалавека. Возьмем, напрыклад, вялікую працу т. Касталянскага „Ударная брыгада на заводзе Варашылава". Па рысунку карціна досыць моцная, але яна засушана, амерцьвячана няўдала надабранымі фарбамі. Карціна залішне змрочная, цёмная, завод хутчэй нагадвае саматужную паўразбураную майстэрню, чым сацыялістычнае прадпрыемства. І хто можа паверыць, што цёмныя, бяскроўныя постаці людзей гэта—ударнікі, энтузіясты сацыялістычнага будаўніцтва? У гэтым дачыненьні меў рацыю т. Азгур, калі на дыспуце ва унівэрсытэце казаў, што мы ў пляне скарыстаньня культурнае спадчыны павінны вучыцца паказу канкрэтнага клясавага чалавека ня ў выразьнікаў эпохі заняпаду буржуазіі, а ў мастакоў, якія выражалі яе рэвалюцыйны ўздым, у першую чаргу ў вялікіх майстроў эпохі адраджэньня. Сапраўды, такія майстры, як Рубенс Тыцыян, Мікель-Анджэло, Леонардо-да-Вінчы ўмелі сакавіта, глыбока мастацкі паказаць энэргію, энтузіязм, рэвалюцыйны сьветапогляд маладойбуржуазіі. І нашым мастакам трэба вучыцца яшчэ больш мастацкімі сродкамі паказваць людзей, больш высокай клясавай фармацыі—будаўнікоў бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва. І калі мы пад гэтым кутом гледжаньня станем разглядаць творчасьць т.т. Касталянскага, Красоўскага, Даўгяла, дык адразу выявіцца неабходнасьць установкі на паказ канкрэтнага клясавага чалавека, неабходнасьць упартай вучобы.

Працы т. Красоўскага „Трамвай у рабочы квартал", партрэты ўдарнікаў, будучы тэматычна-актуальнымі, патрэбнымі, маюць тыя-ж хібы, што і працы Касталянскага. Яны бездапаможна натуралістычны ў паказе мёртвых рэчаў і сухі, схэматычны ў паказе людзей. Тое-ж мы назіраем і ў т. Даўгяла. Яго „Дзіцячая пляцоўка" вызначаецца няўменьнем знайсьці патрэбныя для выражэньня замыслу фарбы. У гэтым дачыненьні характэрна, што эскіз да гэтае карціны атрымаўся больш моцным, чым сама карціна. Узяўшы радасную, аптэмістычную тэму, ён засушыў яе аднатоннай цёмна-зялёнай фарбай. Мастак ня ўмее вы-
лучыць патрэбную канкр
Ён спыняецца на тым,
ўражаньне рэчы, чалавека
ражаць рух, яго карціны
чая пляцоўка", „У Заход

Пасьля мінулагодняй п
праца т. Тычыны „Вытво
друкарні імя Сталіна) ёсь
хутчэй эскіз да карціны,
цавана. Рабочыя на ёй
ваны. Кампазыцыйна яна
нутай уверх. Праўда,
мастак ня справіўся да
кім выглядзе, як яна б
чаюць некаторыя важн
для выражэньня спэцыф
дзены досыць удала, ал
быў большы размах, каб
рамэнту. Гэта зрабіла-бы

Статычны і працы т. Г
заводу" хутчэй нагадва
новага сацыялістычнага
унутранага раскрыцьця
яе застыглай, плякатнай
„На разьведцы". Але гэ
больш удалай з прац Га
на тыпізацыю вобразаў,
рыстыку. Фарбы ў ёй
такія аднатонныя, як у
даўніцтве". Увогуле мн
злоўжывае чырвоным
ўсяго іншага працаваць
вай гамы.

З найбольш моцных
працы т. Шэўчанкі „Сп
і працу т. Булычова „
Калі ў працы Шэўча
даюцца нараўне з агуль
гой яго працы асноўна
людзей. Гэта і абумові
больш дынамікі. Для
рактэрна ўстаноўка на
ражана моц нашае се


На варце
М. Пашкевіч


Бюст Кузьмы Чорнага
З. Азгур


Трамвай у рабочы квартал
А. Красоўскі

арактэрную дэталь.
ь толькі агульнае
яму вучыцца вы-
статычны („Дзіця-
арусі“).

Іа пабудове шасэ“
рада“ (на матэрыяле
наперад. Але гэта
оціна. Яна недапра-
лёны, не прарыса-
ася залішне выцяг-
ымалася таму, што
скончыць яе ў та-
ана. У ёй адсутні-
і. Фарбы, колёрыт
рскае працы зной-
я-б, каб у карціне
ольш адвагі, тэмпэ-
ш дынамічнай.

кі. Карціна „Пуск
страцыю, чым пуск
емства. Адсутнасьць
вобразаў, робіць
статыка і ў карціне
трэба лічыць най-
. У ёй ёсьць намёк
унутраную характа-
ольш сьвежыя, не
аволу“ і „На бу-
, што Гаўрыленка
Яму трэба апрача
агачэньнем фарба-

а яшчэ адзначыць
і „Вяжуць снапы“
ТС на адпачынку“.
уць снапы“ людзі
авінамі, дык у дру-
ка ўзята на паказ
у „Сплаўшчыках“
лычова таксама ха-
ей. У ёй добра вы-
ыялістычнае гаспа-

даркі (багатая зямля, моцныя людзі, высокая тэхніка). Але ўсё-ж трэба прызнаць, што яна залішне натуралістычна.

Зусім акрэсьлена пад сьцягам натуралізму ідуць мастакі: Віер, Станюта і Кругер. Станоўчае ў іх працы тое, што яны ўмеюць намаляваць чалавека. Але іх вобразы фактографічны, павярхоўны, у іх няма ўнутранай зарадкі (Віер—„Партрэт Ганчарэнкі“ і „Суботнік“, Станюта—„Фізкультурнік“, „Фізкультурніца“, „Дапрызыўнік“, Кругер—„Стары партызан“, партрэт т. Платуна і інш.). Да таго-ж у працы Віера—„Суботнік“ адчуваецца іконапісная тэхніка. Тое-ж самае ў працы Станюты—„Фізкультурнік“. Відаць гэтыя т. т. перабудаваліся толькі тэматычна, перабудова ў іх яшчэ не захапіла формы, сродкаў мастацкага выражэньня. Пошукі новай формы, выпрацоўка новага творчага мэтаду, найбольш прыдатных для працы на савецкім матэрыяле, ёсьць для іх неадкладная неабходнасьць. Яны змогуць узьняцца на новую мастацкую ступень толькі тады, калі авалодаюць майстэрствам унутраной, ідэйнай характарыстыкі, раскрыцьця вобразаў.

Ня так багата на выстаўцы прадстаўлена скульптура. З скульптурных прац па мастацкасьці, асабліва вылучаецца бюст пісьменьніка Кузьмы Чорнага працы скульптара т. Азгура. Азгур у гэтай працы здолеў стварыць вобраз чалавека разумовае працы. Тое-ж можна сказаць і пра лепшую працу Бразэра бюст пісьменьніка Бэргельсона, хаця па мастацкай закончанасьці яна стаіць усё-ж ніжэй. Бюст Цішкі Гартнага і Кнорына ня зусім удаліся Азгуру. Першы атрымаўся карыкатурным, у другім Азгур не знайшоў сродкаў для выражэньня ўнутранай стойкасьці бальшавіка. Таксама надзвычайна спрэчнай трэба лічыць трактоўку т. Бразэрам камкора Цімашэнкі. Утрыраванае падкрэсьліваньне валявога моманту ўнясло ў гэты вобраз элемэнты карыкатуры. Ва ўсякім разе гэту працу ніяк нельга лічыць тыпізаваным вобразам камандзіра Чырвонае арміі.

З гравюр трэба адзначыць надзвычайна мастацкія працы Мініна (з цыклю „Вайна“). Але Мінін яшчэ ня ўзьняўся да клясавай трактоўкі вайны, ён пратэстуе супроць вайны з пацыфісцкіх пазыцый.

Такі цікавы жанр, як разьба на дрэву прадстаўлены т. Грубэ і самавучкай Жакевічам. Рэльеф Грубэ „Кастрычнік“ нельга назваць мастацкай працай. Уздым і магутнасьць пралетарскае рэвалюцыі Грубэ выражае не праз ідэйную характарыстыку вобразаў рабочых і іх правадыра Леніна, а досыць прымітыўна, праз іх фізычную магутнасьць. Гэта прыводзіць да гіпэрбалізацыі фізычных даных, што ўносіць у працу элемэнты гротэску. Кампанізацыйнае вырашэньне рэльефу таксама спрэчна, у ім слаба выражана роля Леніна, як правадыра. Добра паказана адзінства Леніна з рабочай масай, але кіраўніка, правадыра ў ім не адчуваецца.

З прац Ізорам'у зьвяртае на сябе ўвагу праца т. Лапкоўскага „Дэманстрацыя“. У вобразах рабочых ён сумеў даць людзей, якія з гатоўнасьцю змагацца да канца, з вялікай унутранай зацятасьцю, у рэвалюцыйным парыве сьпяваюць рэвалюцыйны гімн.

З прац самавучак вылучаюцца працы Жакевіча „На пабудове Дому Ўраду“ і эскіз Галубка.

Пятая Ўсебеларуская выстаўка дэманструе рашучы паварот выяўленчага мастацтва БССР да савецкае тэматыкі, сьведчыць пра значны ідэйны і мастацкі рост шэрагу мастакоў. На далейшае стаіць праблема пашырэньня савецкае тэматыкі, праблема, выпрацоўкі глыбокага ленінскага сьветапогляду, аваладаньня мастацкаю тэхнікаю, майстэрствам паказу канкрэтных клясавых людзей, майстэрствам стварэньня ўзьнятых на ступень філёзофскіх абагульненьняў тыпізаваных вобразаў будаўнікоў сацыялістычнага бясклясавага грамадзтва. Пастанова ЦК партыі пра перабудову літаратурных і мастацкіх арганізацый дае яшчэ большыя магчымасьці для творчае працы, для выяўленьня ўласнае творчае індывідуальнасьці, для далейшага ідэйнага і мастацкага росту работнікаў выяўленчага мастацтва. Творчая думка партыі, нісколькі не абмяжоўваючы творчага спаборніцтва, спаборніцтва творчых мэтадаў, указвае, што вялікае сацыялістычнае мастацтва ляжыць у баку ад усякіх формалістычных мудрагельстваў, на шляхох сацыялістычнага рэалізму.

У кірунку стварэньня вялікага сацыялістычнага мастацтва і павінны працаваць работнікі выяўленчага мастацтва.





А. Бразэр. Бюст яўрэйскага пісьменьніка Д. Бергельсона



А. Тычына. Вытворчая нарада

МІКОЛА НІКАНОВІЧ

# ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ

***Урыўкі з дзеньніка на ДАРБУДЗЕ***

Залатым лістападам, баб'ім летам і вострым пахам адцьвітаньня сустрэла нас, жменьку людзей выязной рэдакцыі „Савецкая Беларусь“, залатая восень на дарбудзе.

Стары закінуты могільнік. Крыжоў няма. Яны даўно згінулі. Пяць-шэсьць зарослых ядвабам моху пліт; глыбока ўрасьлі яны ў зямлю, як і памяць пра мінулае. Чорным пудзілам тарчыць на горцы крыжам высячаны помнік. Кулак нейкі, вясковы багацей прыціснуў навек свае моцныя косьці. Буйная і сакавітая трава вырасла на гэтым могільніку. Бо інакш і быць не магло: завельмі багата змочана гэта неўрадлівая зямля горкімі сьлязьмі няўцешнага гора і тугі людзкой. З глыбокай пашанай прыходзілі людзі на могільнік. Восенскімі-ж чорнымі што дзёгаць начамі далёка абыходзілі старыя і малыя гэта мейсца. З даўніх-даўна насычана яно яшчэ чарнейшым ад начы забабонам, страхацьцём і ценьмі мярцьвячыны. Страшнае мейсца. Унізе—палыны, ды гразь. І сярод палыноў і падбялу пабегла ад сяла да сяла вузенькая, затопленая жыжкаю, калдабаністая дарога. І калі трэба было выехаць каму па сваіх справах у горад, у Барысаў,—доўга скроб селянін у патыліцы і паклаўшы нязграбны крыж караваю рукою на замусьлены кажушок нясьмела нукаў на каняку. Дарога была куды страшней старога нялюдзімага могільніку.

Так і жылі. Гады ў рады, калі трэба было праехаць архірэю па сваей парахвіі, выганяў сілком ураднік сялян на дарогу. Клалі лапкі, засыпалі зямлёю і аж на цэлы тыдзень дарога жыла радасным жыцьцём. Вось тады маглі ўспаўзаць на ўтрамбаваную насып і палыны і трыпутнік.

Багата было палыну. А яшчэ больш яго было ў жыцьці сялянскім. Толькі адзін цьвінтар пышна апранаўся мятлюгом ды дзятлікам. Ня жыцьцё, а масьлянка была для папоўскай каровы. І папоўскае жыцьцё ня ведала палыну. Поп не пабаяўся граху: зруйнаваў ён пашаніну і беспрадметны страх сялянскі і на старым могільніку, на высокім узгорку пабудаваў вялікі сабе дом. І на „сьвятым“ мейсцы сьвяты айцец заскарузлымі рукамі сваей парахвіі будаваў упарта і ўпэўнена залатое жыцьцё, штодзённую масьлянку. Якая справа была папу да дарогі?.. У вольныя ад работ часы сяляне павінны былі не забываць царквы. Сьмертны грэх быў нават і падумаць пра работу. Калі і каму там было нават і думаць пра рамонт дарог, ня то што пракласьці новую, пазбавіць сялян ад штодзённых пакут.

... І вось прышлі новыя людзі з упартай волею, з халодным розумам, з бальшавіцкай загартаванасьцю. Прышлі людзі, якія даўно забыліся што такое грэх, што такое царкоўнае сьвята, што такое выходны дзень. Інжынэры і тэхнікі цяжкімі сваімі ботамі бязьлітасна памялі дарожны палын і ён у дзікім спалоху ўцёк за царкоўную агарожу, на цьвінтар. Ня вынес бальшавіцкага духу і поп. І нахмурыўся новы дом—рэзындэнцыя папа, затужыў па людзях і ў зьдзіўленьні высыпала ўсё сяло Славені паглядзець на нябачнае цуда. Старыкі мацалі крючкаватымі пальцамі насып дарожную і скэптычна ўсьміхаліся.

— Нічога з гэтага ня будзе. Ня пройдзе нейкая там шаша па нашых няўдобніцах. Спрэку-веку ніколі не хадзіла сюдою машына і зараз ня пройдзе. Адзін абман, панімае е.

— Дай рады. Кацярына вялікая колькі гадкоў старалася, забоцілася, бярозкамі абсаджвала і то... А тут ці відана дзела... Хочуць каб у адзін год і шашу прагнаць, ды каб і машына пашла... Дудкі. Усё гэта толькі на нашу сьпіну ды каб нашымі рукамі, ды каб нашымі грашыма...—і горда азірнуўшыся на старыкоў вачыма ўсезнаўцы плюнула на сьвежае палатно дарогі шырокая сівая барада царкоўнага старасты ў даўгім кажуху.—Ярунда! Дзяўсьцьвіцельна абман адзін.

Думкаю нахмурыўшы лоб не прыслухоўваліся да гэтага і падлічалі складаныя вылічэньні і формулы дарожныя інжынэры.

А гэтым летам убачыла сяло, як на ўсім палатне дарогі зьявіліся дзіўныя машыны, убачыла такую работу, якой, мусіць, і ня сьніла і ўявіць не магло.

Славені. Гэта вялікае і поўнае непралазнае гразі сяло. Ляжыць яно на 148—149 кілёмэтрах шашы 5-га дарожна-будаўнічага вучастку, у 5 кілм. ад станцыі Слаўнае. Гэта тое самае сяло, якое век ня бачыла добрай дарогі, якое душылася ў гразі і душыла і клала на дарозе сваіх коняй пад пятнаццаціпудовым грузам. Гэта тое самае сяло, якое год таму назад выходзіла на палатно дарогі і так скэптычна і недаверліва расцэньвала першапачатковыя работы інжынэраў.

Сёньня яно ўжо не палохаецца гэтых страшыдлаў—каткоў, гэтых прыгожых і мілых аўтомашын—„круппаў“, яго не палохае кругласутачны рэў і ёнк машын за работаю, не палохае і начное зарыва часовай электрастанцыі што ахапляе сабою паўнеба. Гэта сяло сваімі вачыма ўбачыла цуда, утворанае кемнымі рукамі чалавека.

Гэта сяло нават і забылася пра грэх. Тыя-ж скэптыкі самі ўвайшлі з галавою ў работу на дарбудзе і дні пачалі лічыць нормаю выпрацоўкі і забітымі ды ўкатанымі пробкамі.

---

Вечар. Рэдакцыйная нарада. Разьмеркаваньне работ. Газэта будзе штодзёнкай. Газэту робіць Тодар. Бурдыка, Зайцаў, Касьцюк і я—на лініі работ. Мне-ж трэба яшчэ спэцыяльна сесьці на мэханізацыю. Значыць: каткі, камнедрабілкі, аўтамашыны (у прыватнасьці аўтокалёна № 2 аўтоатраду № 7 імя газэты „Савецкая Беларусь“), „Круппы“, электрастанцыя і г. д—усё гэта я павінен ведаць, сачыць за іхнай работаю, бачыць і станоўчыя і адмоўныя бакі гэтай работы. А справа гэта для мяне зусім незнаёмая, новая. Трэба вялізарная ўвага, трэба ў два-тры дні дасканальна азнаёміцца з гэтымі машынамі, азнаёміцца з людзьмі, з іхнай работаю і адначасова такую-ж увагу трэба аддаць і рабоце на шашы. Дрэнна яшчэ і тое, што за сабою не адчуваеш аніякай практыкі і таму нараджаецца нейкая няўпэўненасьць, проста страх перад такой работаю, перад такім важным заданьнем. Ці змагу.

Думаю, што змагу.

---

Ш А С Э М Е Н С К—



Мітынг на адкрыцьці дарогі ў Смалявічах



Старшыня Саўнаркому БССР т. Галадзед разразае ленту на адкрыцьці дарогі

Ажыў стары могільнік. Прышлі ў рэдакцыю людзі спачатку наглядзець на рэдакцыйную работу, а потым, назаўтрае, прынесьлі першыя допісы. Гэта былі допісы напісаныя нязграбным, каравым почаркам рабочага чалавека. Пісаліся яны ў сталоўцы, у аўтамабільнай кабінцы, на катку і проста прысеўшы на камені на лініі работ. У гэтых допісах людзі больш выпуклялі адмоўныя бакі работы і быту. У пастаяннай рабоце яны не маглі заўважыць, не маглі ацаніць веліч зробленага. Стопроцантнае выкананьне заданьня—гэта ўжо звыклае і нармальнае зьявішча. Людзі гоняць уверх, вышэй ад сотні, норму выпрацоўкі.

Аўтомашыны вырашаюць лёс дарогі. Бо што варта работа той самай і камнедрабілкі і каткоў, калі не падвезены камень, калі не засыпана ў карыта дарогі: шчабёнка, кліноўка і кашыца. Сваячасовая і ўдарная падвозка машынамі магар'ялу—задача кожнага шафёра. І дзіўна робіцца, калі чуеш, што той ці іншы шафёр ня ўдарнік. Гэтага ня можа быць як ня можа быць і таго, што рабочы скажа:—Я сёньня на работу не пайду.

І вось за кожнае мала-мальскае адхіленьне ад тэмпаў і б'юць сьмертным боем рабочыя допісы.

І між іншым, якая радасьць таго, хто пападае ў газэту як прыкладны рабочы і якая гарката, сорам і прыніжанасьць у вачох „прадзёрнутага“.

Я сам наглядаў такі выпадак. Позна ўвечары, мокры і адубелы я, не заходзячы ў рэдакцыю, падаўся ў сталоўку. Цэлы дзень не давялося нават і скарынкі хлеба зьесьці; так вышла. Ня быў і ў рэдакцыі, таму і ня ведаў пра зьмест нашага нумару. Дастаць нумар можна было ў сталоўцы.

У сталоўцы ёсьць асобны стол, стол ударніка. Кожны дзень бачыў я за гэтым сталом ударніка Сьцяпана. Есьць заўсёды моўчкі, і пасьпешна садзіўся з ядою і пад'еўшы сьпяшаўся зноў на работу. Гэта быў прыкладны машыніст катковай брыгады. Якое-ж было маё зьдзіўленьне калі я сёньня яго ўбачыў не на сваім мейсцы. Я сеў побач. Ён глянуў на мяне сваімі смутнымі вачыма, і зноў пасьпешна апусьціў іх у міску.

— У чым справа.

— Ды нічога. А што?

— Чаму, Сьцяпан, не на сваім мейсцы?

Ён трохі памаўчаў, потым адкінуўся да сьцяны і ціха кінуў:

— На гэты раз я згубіў сваё месца. Бач ты як прабралі мяне сёньня. Які-ж я тады ў чорта ўдарнік...—і ён разгарнуў лісток газэты і ткнуў у допіс чорным пальцам.

Яго абвінавацілі ў тым, што ён несваячасова ўранку падняўся на работу. Сьцяпан сачыў за мною вачыма, а як кончыў чытаць і глянуў на яго, ён зноў апусьціў галаву.

— Як вышла?

— Ды чорт яго ведае як гэта так здарылася. Перад гэтым амаль цэлую ноч быў на катку ну, і неяк заспаў. А ці можна яшчэ паправіць?

— Ды ты, Сьцяпан, давядзі, што можаш быць ударнікам.

— Давяду. Да двухсот процантаў укаткі падцягну... Ну і тады толькі сяду за стол ударніка...

Трэба было газэце ў некалькіх разох дапамагчы рабочаму ў розных такіх пытаньнях, якія цяжка былі для разьвязаньня, як зусім зьмяніліся адносіны ў іх да газэты і газэтных работнікаў.

Ст. Жодзіна. Калгасьніцы ідуць на адкрыцьцё дарогі



Цяпер на лініі закідаюць цяое рознымі запытаньнямі, заўсёды зьбярэш ад рабочых цэлую кучу допісаў, якіх хопіць на пару газэт. За некалькі кілёмэтраў прыходзіць „дэлегат“ ад рабочых то з допісамі, то са скаргаю на неакуратную дастаўку газэт на лінію.

Колькі переравернецца таго народу ў рэдакцыі. І ноч і дзень заўсёды адчынены рэдакцыйныя дзьверы для ўсіх.

Брыгадзір катковае брыгады т. Дзямідаў вырашае свае набалелыя пытаньні толькі ў рэдакцыі. Як толькі сьвет, так і матаецца ягоная доўгая ў брызантовым плашчы постаць па могільніку. З навінамі сьпяшаецца.

— Ну, што...

— Ідзеце толькі гляньце... Ну ідзеце гляньце...—Засопшыся махае рукамі Дзямідаў.—Ну ідзеце-ж, прашу вас...

Выходзім. На дарозе стаіць на парах „шварцкопф“. Цяжкі каток канчае ўкатку.

— Ну куды-ж гэта відана, га...—падбягае Дзямідаў да кучкі дроў складзеных на траве.—Куды-ж гэта гадзіцца чорт-бы іх пабраў?.. Ці-ж змагу я выканаць норму ўкаткі, скажыце толькі...

Праўда, дроў для катка было малавата. Тэхнік Літвінаў не разьлічыў і таму вось прастой.

— Пішы ў газэту... А мы з кім трэба пагутарым. Уладзім.

Дзямідаў змаўкае і мокрымі і чырвонымі ад холаду пальцамі круціць цыгарку. У імгле хоча праясьніцца неба ды толькі зноў зацягваецца восенскімі хмарамі. Машыніст падлічвае колькі ён можа ўкатаць з гэтым запасам паліва, да якой гадзіны можа пратрымацца, а Дзямідаў пусьціўшы клубкі дыму панёсься на склад шукаць Літвінава.

## ВОРША ПАБУДАВАНА

Фото Л. МАЗЭЛЕВА



Раздача газэты „Савецкая Беларусь“ ў часе адкрыцьця дарогі



Калёна аўтамашын на новай дарозе

АЛЕСЬ ЛІПНЁВЫ

# Маці

НАВЭЛЯ

МАЛЮНАК А. ЗАБОРАВА



Апошні ліст яна атрымала ў гарачы летні дзень.

На канвэрце была замежная марка,—нэрвовы трохі раскідчасты почырк і штамп таго гораду.

Гэтага лісту яна доўгі час чакала.

Сьпяшаючыся і дрыжучы ад нейкага страху і радасьці, яна хуценька разарвала канвэрт. У чаканьні страшнага, зьбялеўшы апусьцілася на крэсла і прагна упіваючыся ў літары знаёмага почырку, шэпчучы пачала чытаць. Чытала яна, хапаючы слова за словам, каб хутчэй дайсьці да канца лісту. Чытаючы ўздыхала, выцірала сьлёзы. Пасьля як прачытала ліст, уселася лепш на крэсьле і ізноў пачала перачытваць ліст.

Трэсьліся рукі, трэслася ўся яна, па старэчаму. Ад радасьці зьбіралася плакаць. Было так радасна і ў той-жа час так сумна. Хацелася ўбачыць яе і як малую пагушкаць на руках, як калісьці гушкала яна—узяць асьцярожна пад пахі і закінуць высока над галавой і на хвіліну ўбачыць—вясёлы ружовенькі тварык дзяўчынкі і прыжмураныя ад страху і радасьці вочкі. Столькі-ж год—як ня бачыла яна сваю дачушку Веру. Яшчэ малой яны растаіліся. На ўспамін ад яе ў маці застаўся толькі адзін маленькі сьлед—пяціхвілінная фотакартка—дзіцячы тварык у авале, трохі зьбянтэжаны, відаць ад грознага выгляду фатографа.

Па начох, калі засыпалі ўсе ў хаце і мармытаў спрасонку стары, маці паўзком прабіралася да камоды, выцягвала з шуфляды гэтую картку і ля вакна пры скупым сьвятле маладзіка доўга ўглядалася ў тварык сваёй дзяўчынкі Веры, такі знаёмы, да болю знаёмы тварык. Ёй хацелася знайсьці, адшукаць яшчэ што-небудзь новае ў гэтай фатаграфіі. Часамі ёй пачынала здавацца, што тварык дзяўчынкі чамусьці сумны і вочкі гатовы заплакаць—гэта былі адбіткі яе матчыных трывог і сардэчнага болю. Станавілася ёй страшна, успаміналіся трывожныя весткі, што даходзілі адтуль з-за мяжы. Не хацелася ім верыць. Але весткі былі ўпартыя: Вера хворая, у Веры туберкулёз лёгкіх. Не хацела верыць гэтым весткам і не магла сябе прымусіць ня верыць. А ў думках песьціла яе, у снох сьніла, што абымае і гладзіць яе пяшчотна, што апранае яе ў новае ружовае ўбраньне. Песьціла ўпарта, з роспачу песьціла думку—а мо' няпраўда, што дачка хворая?! Ці мала што кажуць людзі. Ня можа быць?! Бо ў яе Вера—адзіная дачка, вясёлая і бадзёрая. Не, не, лепш пра гэта не ўспамінаць! Ня можа і не павінна гэтага быць!

Каціліся сьлёзы па старэчых маршчатых шчоках. Яна прыціскала халодную картку да гарачай і мокрай шчакі, упівалася працяжным, ненатольным пацалункам у тварык дзяўчынкі, ціха, ціха плакала.

Маці ўспамінала часта праз дзень растаньня. Была восень. Халодная ноч. Падмярзалі лужыны і дубела зямля. Быў маладзік—і масьляністае спакойнае і халоднае сьвятло ляжала над гарадком. У такі вечар, яны—стары і старая, паехалі да яе. Больш і ня бачылі яе—Веру адзіную дачушку. Застаўся тады ў мацеры сын адзін Васіль.

Мяжа перарэзала краіну і дачка засталася на тым баку.

Весткі ад яе былі скупыя і нярадасныя. Лісты прыходзілі вельмі і вельмі ўжо рэдка,—а ў лістох тых: „жыва, здарова, ня сумуй, маці...“—і ўсё. Дзе працуе? Як жыве? Ня пісала.

— Ой, ды як-жа было ёй не сумаваці! Па адзінай сваёй дачцы, па роднай Веры!

Потым і лісты ня сталі прыходзіць.

Адкаціліся годы вайны. Жыцьцё ўваходзіла ў новыя берагі. А лістоў усё ня было. І вось аднойчы пасьля доўгіх месяцаў чаканьня яна атрымала ліст. Але на канвэрце ня было знаёмага почырку—нэрвовых раскідчастых літараў. Пісалі таварышы дачкі, што Вера арыштавана дэфэнзывай—за падпольную работу ў камсамоле.

З таго часу маці затоіла боль у сабе, стала ціхай. Хадзіла ціха па хаце, быццам нікога не заўважваючы, глядзела бязуважнымі пустымі вачыма, і было ёй усёроўна ці свае людзі, ці староньнія ў хаце. Апусьцілася сама, ня так ужо глядзела за парадкам у хаце, за старым. Часамі выходзіла на ганак, сядала на верхняй усходчы і апусьціўшы галаву на далоні ўзьнятых рук сумна глядзела ў далячынь. (Па небе блукалі воблакі—такія-ж бязмэтныя, як думкі маці).

Усё часьцей і часьцей бязмэтна і ціха бадзялася яна па хаце. Калі ў яе запытвалі—ці зусім не адказвала, ці адказвала вельмі ціха і не да ладу. Калі яна праходзіла па вуліцы гарадка—прахожыя і сустрэчныя гаварылі:

— Вось ідзе Верчына матка—і саступалі з дарогі.

Яна, як-бы не заўважала гэтых поглядаў і ціхіх шэптаў, дзе ўспаміналі і яе і доччына імя, ішла проста па вуліцы.

Восень прышла на зьмену лета, за восеньню—зіма і зноў вясна. У кагародзе год—мянялася не адно лета і не адна зіма зьмяняла восень.

Гарадок вырас, растлусьцеў; вуліцы накінулі на сябе асфальтавае пакрывала; каменьні ляглі паверх пяску; шырокія і сьветлыя карпусы заводаў парушылі цішыню ўскраін, новыя муры красавалі сьвежасьцю фарбы і строгімі контурамі сваёй навізны; па вуліцах зачасьцілі бліскучыя форды, адсьвечваючы стальлю тарахцелі вялікія пяцітонкі-грузавікі. У правалах вуліц, паміж высокаузьнесенымі мурамі моцна і бурна біў паўнакроўны людзкі паводак.

Праходзілі гады.

І ўсё па-ранейшаму, старая ціха хадзіла з сваімі думкамі і смуткам пра дачку.

Ад яе прыходзілі лісты з вастрогу. Яна была асуджана на пятнаццаць год турмы—за работу ў падпольным камсамоле. Ёй было толькі дзевятнаццаць год, калі яе арыштавалі, і калі-б ёй адседзіць увесь час—пятнаццаць год, яна бы вышла адтуль пажылай жанчынай. Ды ці вышла-б яна?! Ці в трымала-б яна, кволая і хваравітая? Маці ведала пра жахі турмы і дэфэнзывы—жахі куды больш страшныя, чымся ў старой самадзяржаўнай. жандарскай Расіі. Гэта-ж былі „крэсы“, „Заходняя Беларусь“—прыціснутая цяжарам панскага боту.

Адна заставалася радасьць у мацеры—гэта лісты ад яе. Якую радасьць прыносіў кожны з іх! З іх, з гэтых лістоў так і глядзела на маці яе Вера—жвавая, энэргічная, нястомная—вясёлая, заўжды бадзёрая. Нават там за турэмнымі кратамі.

Яна пісала мацеры:

„Ня сумуй, ты маці, пра мяне. Будзем жыць і працаваць. Як радуюся я кожнаму дню вашага жыцьця! На палёх калгасаў там у вас—стальныя калёны—гудуць трактары. І мне здаецца часам, што праз турэмныя краты я чую выразна гэты гул... Як хораша, матулечка, жыць на сьвеце!..“

І маці ня ведала, ці плакаць ад шчасьця, ад гэтых слоў, ці горка рыдаць ад болю.

Гэтыя лісты падбадзёрвалі яе. Яна старанна ізноў наводзіла стары парадак у хаце. З гэтымі лістамі яна ўваходзіла ў райком МОПР'у, чытала там іх, плакала ад радасьці. А назаўтра ішла на завод, дзе працаваў стары. Там у перапынках яна зноў чытала лісты і зноў не магла ўтрымацца, каб не заплакаць.

„Матулечка, родная! Кажуць, што ў Менску пайшоў трамвай. Мы пра гэта сёньня пачулі ў турме. Якая радасьць! Дзе-ж ты, былы губэрнскі, папоўскі архіярэйскі Менск?!.“

І маці самой хацелася хутчэй дабрацца з свайго далёкага Палескага гарадка і ўбачыць Менск і паглядзець на трамвай.

А калі загулі турбіны Электрастану па Асінаўскіх балотах, маці атрымала ад Веры—насычаны да краёў узьнятасьцю і бадзёрасьцю ліст. Там пісала яна, што: ...„Падносіце вы вялікую як Манблан дулю ўсяму капіталістычнаму сьвету...“ І маці панесла гэты ліст у газэту і там надрукавалі яго. З таго часу ўсё часьцей і часьцей зьвінелі цёплыя Верчыны лісты са старонак газэты.

Нібы месяц шчодра сыпануў сваім сьвятлом на матчыных валасох—за гэтыя гады яна сьсівела.

Імя яе дачкі вельмі часта ўспаміналі, калі адчынялі новыя карпусы заводаў, калі праводзілі першыя вечары ў новых рабочых клюбах. Маці запрашалі ў прэзыдыум, яна ніколі не адмаўлялася—ішла. Але ніколі не выступала—бо пра дачку ёй хацелася сказаць ня толькі як матцы пра дачку, а куды больш вялікае і значнае, ды баялася, што ня знойдзе яна такіх слоў, каб думкі свае выказаць.

Сын Васіль, скончыў інстытут і прыехаў дахаты інжынэрам. Маці маленькая і схудалая кінулася яму на грудзі, а ён высокі і дужы падняў яе на руках і моцна пацалаваў. Яе трапяткія рукі ў нямым парыве ўсхваляванасьці прабеглі па яго плячох.

У той дзень яна злавіла сябе на злачынстве—усьміхнулася!

— „Якое права ты маеш, маці,—сказала яна сабе,—якое права маеш ты, маці, усьміхацца, радавацца, калі дачка твая пакутуе ў вастрозе?..“

І—пагасіла ўсьмешку ў прадоньні ўпалых, гарачых вачэй.

І раптам тэлеграма ад яе таварышкі Юлі, такая нечаканая. Нават страшная. Ня верылася. Яна пабегла на тэлеграф і папрасіла, каб праверылі—а мо' наблыталі?! На тэлеграфе—яе ведалі. Зрабілі праверку. Блытаніны ня было.

„Значыць, праўда?!“—сказала маці і зноў жахнулася сваіх слоў.—А ці праўда?!

А ў тэлеграме было:

— Тэрмінова выяжджай энск кропка сустракаем Веру кропка Юля.

Той дзень прайшоў, як у тумане. Бясконца і нудна грукатаў цягнік. Маці злавала на шматлікіх прыпынках, злавала на гэты бясконцы і нудны рух цягніка, са стомай у вачох глядзела на дзяжурных па станцыі, нібы прасіла: — Хутчэй, хутчэй! Узмахні сьцяжком—дайце знак да адпраўленьня!

Ёй здалося, што гэты дзень больш пакутны, чымся ўсё жыцьцё за апошнія гады.

Таварышы і таварышкі дачкі—тыя, хто ведаў, прышлі яе сустракаць. Маці пасадзілі ў аўто—і ззаду, калі лёгка крануўся аўто і паплыла насустрач вуліца—засталося некалькі дзесяткаў людзей, якія пасылалі маці вітаньні.

Седзячы ў аўтамабілі, яна раптам нешта такое ўспомніла. Сударгава намацала пад кофтай пак папер. І супакоілася.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Быў вечар.

Мацеры гэты вечар вельмі нагадваў вечар растаньня.

Восень. Было холадна. Поўны ў абліччы маладзік, карагодзіў з зоркамі на чыстым небе.

Каля будынку вакзалу ў сьвятле магутных электрычных пражэктараў ярка блішчэлі трубы аркестру. Па плошчы перад вакзалам прыходзілі ўсё новыя і новыя калёны. Сьпераду на аднэй лініі, палымнеючы чырваньню—горда ўздыбіліся ўверх сьцягі. У калёнах што кветнікі—расьцьвіталі вялікія букеты жывых кветак.

Пэрон застыў сярод суровых рэйкавых скрыжаваньняў,

Маці ўжо даўно прышла на пэрон. Яе трымала пад пахі двое маладых дзяўчат. Яны нешта ласкавае такое гаварылі мацеры, але словы не даходзілі да яе сьвядомасьці, і маці толькі ківала ім галавой. А думкі былі там на мяжы, разам з дачкой. Яна неадчэпна глядзела ў той бок, адкуль павінны былі запаліцца агні падыходзячага цягніка.

На плошчы і на пэроне прыбаўлялася народу. Людзі праходзілі міма яе. Шмат незнаёмых кіўкамі віталіся з ёй. Яна бязуважна і замяшана адказвала на прывітаньні і зноў неадчэпна глядзела туды, куды ўбягалі рэйкі.

...Губляючы іскры ў чорнай начы, імчаў у аддалях экспрэс-цягнік.

Палі пралятаі ўздоўж яго шляху ў ціхім парадзе, м ўклівай хадзе.

... У тым цягніку?! А ў каторым вагоне?!..

... Імчы цягнік! Наддай хады!..

... Наддай хады! Сьпяшай цягнік!..

А гордыя грудзі як промні сьвятла з сілай і прагай нізалі адлегласьць.

І іскры, як зоркі, зрываліся з старту і гасьлі бяз сьледу ў прадоньні начы.

Палі пралятаі пакорліва, ціха. Шумелі насустрач бліжэйшыя дрэвы.. Губляліся ў далях лясныя масывы. А хаты мільгалі маланкай уздоўж рэяк

Рытмічна і плаўна сьпявалі вагоны, і буфэры дзынькалі прагна і звонка, і стукалі рэйкі на стыках сваіх, і моўчкі зьнікалі агні ў далячыні.

Хвіліны паўзьлі так марудна і ціха. І сэрца ў трывозе лічыла хвіліны, І сэрцу хацелася паскорыць іх ход.

Імчы цягнік! Наддай хады!

Наддай хады! Сьпяшай цягнік!

І раптам у ўрачыстай цішы магутна ўзьнеслася сымфонія інтэрнацыяналу. Легкі шэлест прайшоў над калёнамі. З шумам і грукатам прарваўся да пэрону цягнік.

І зьмяшаліся рады.

Людзі кінуліся да вагонаў, і ня маючы ўжо сіл стрымаць хваляваньне гаварылі нешта не да ладу. Цалаваліся. Крычалі радасна і весела.

Застыгла—у нацягнутым людзкім ланцугу ганаровая варта.

Магутна і непераможна гучэў інтэрнацыянал і ўплятаючыся ў рытм гімну, тысячы людзкіх галасоў засьпявалі і заглушылі медзяныя трубы аркестру. Тады маці адчула, як павольна яршацца, варушацца валасы на галаве.

Яна ледзь праціснулася да праходу. Там убачыла яна, як асьцярожна падтрымліваючы пад пахі ўсхваляваныя людзі вялі такіж-жа ўсхваляваных людзей. Яна ўбачыла, як радасна віталіся людзі і зырка гарэлі вочы.

---

## АРКТЫЧНЫЯ ЭКСПЭДЫЦЫІ



**Да экспэдыцыі ледакола „Русанов“. Гадавальнік ездавых сабак на востраве „Дыксон“**



**Ледакол „Сибиряков“ каля „Новай зямлі“ у праліве „Маточкін шар“**

А яна шукала ўсё яе, імкнулася знайсьці. І ня ўбачыўшы ізноў затрывожылася. Ёй дрэнна зрабілася, знутры падплывала цэпкая млявасьць. Спалох мацнеў. Ці даехала-ж яна хаця жывая? І маці зноў глядзела на натоўп, хацела знайсьці знаёмы твар. І ўсе чуткі, усе трывожныя сны—усплылі на ўспамін. Ці прыехала-ж хаця яна? Ці ня здарылася хаця-ж чаго-небудзь у дарозе?

І думкі, адна страшней за другую ў шалёным віры замітусіліся ў мозаку. І людзі заскакалі ў вачох у п'яным нястройным карагодзе. І на хвілінку яна пахіснулася.

І раптам маці ўбачыла—як па руках пранесьлі яе Веру. Яе дачка! Так!

— Вера!!!—на ўсю моц свайго голасу крыкнула маці. Верачка!!!

Але натоўп адкінуў яе далёка ў бок і яна згубіла з вачэй дачку. Ледзь ня вырваліся сьлёзы бясьсільля. Ужо далёка яна ізноў убачыла дачку—бачыла як праплыла яна ў ьнесеная перад натоўпам. Ня сьціханна і няспынна каціліся ура і знаёмы Верчын голас крычэў нешта звонкае.

А перад ёй стаяла жывая людская непраходная сьцяна. Яна не давала ёй прабіцца да Веры. Тады з шалёнствам сабраўшы ўсе свае сілы, яна кінулася праз натоўп, з размаху прарвалася праз ланцуг ганаровай варты і блытаючыся ў цёплым і даўгім паліто бегла задыхаючыся ўсьлед за ёй.

Маці не пасьпела.

Аўто мякка пакаціўся і зьнікла яшчэ раней чым яна дабегла да месца яго стаянкі. Бязьлітаснае аўто павезла яе дачку, ня даўшы нават хвілінку, каб прывітаць.

Цяжка дыхаючы, яна стала пасярод пляцу. І стомлены голас яе прарваўся праз шум натоўпу.

— Верачка, дзіцятка маё!!

Вакол яе сабраўся натоўп. Дзесяткі незнаёмых усхваляваных людзей радасна і горача пацiскалі ёй рукі.

— Маці Веры!

— Яе маці!

Людзі супакойвалі яе. Усім хацелася сказаць ёй нешта ветлае і цёплае.

— Убачыце яе—убачыце!

Падыходзілі ўсё новыя. Натоўп абрастаў людзямі.

Тады яна заўважыла адну з сваіх дзяўчат праважатых і прыцягнуўшы яе да сябе моцна пацалавалася з ёй.

І выціраючы сьлёзы радасьці—шырока ўсьміхнулася—упяршыню за восем год.

У гатэль, дзе спыніліся паліт-эмігранты, маці прыехала на аўто.

Зараз яна ўбачыць сваю дачку!

Яе вялі пад пахі—наверх па ўсходцах, двое дзяўчат ня менш усхваляваных чым яна сама.

У гатэлі ўжо ведалі пра прыезд маці. Сустрэчныя зьнімалі шапкі і ветла схіляліся.

На другім паверсе яна спынілася перад дзьвярыма.

Тут у гэтым нумары яе дачка.

Як закалацілася сэрца! Падагнуліся непаслухмяныя старэчыя ногі...

Эх, чаму не адчыняюць дзьвяр..,

— Верачка!!!

Рыўком яна кінулася да дачкі, моцна, моцна прыціснула да грудзі галаву яе. Дрыжэлі мелка непаслухмяныя рукі,

— Верачка!!!

Ледзь стрымліваючы сьлёзы, дачка падвяла маці да мяккага раскошнага крэсла, усадзіла яе, сама села тут-жа з боку і прыхілілася шчакою да матчыных грудзей.

Шырака расплюшчанымі вачыма ўглядалася маці ў дачку.

— Як яна зьмянілася! Схудала! Вочкі ўпалыя—у Вярусенькі!..

— Ну, чаго-ж... Ты плачаш, матачка?—зрываючымся голасам пыталася дачка.—Ну чаго-ж?.. Радавацца трэба...

— ...Так, так... Радавацца!.. Радавацца!..—бязгучча паўтарыла ўсім сваім нутром маці...—Радавацца!..

Ёй стала душна, яна расшпіліла кофту і тады ўспомніла пра пак папер.

Няпэўнымі рукамі выцягла паперы і працягнула дачцэ.

— ...Гэта лісты, прасілі мяне перадаць табе...

Усхваляваная працягнула дачка руку да лістоў.

— Адкуль?

Блытаючыся ў словах, ледзь зьвязала думкі матка.

— Нашы... нашы мопраўскія арганізацыі, табе...—больш цьвёрда сказала маці апошнія словы.

А калі дачка разгортвала паперы, на дол зваліўся маленькі білецік у чорнай скураной вокладцы.

Вера заўважыла і лёгка нахілілася, каб падняць білецік.

Не, не... Ня трэба... Зьбянтэжаная хацела спыніць яе маці...—Не, ня трэба, Верачка! Ня трэба!

Але тая падымала ўжо гэты білецік у чорнай скураной вокладцы.

— Што гэта?

— І эта...—маці замялася.—Гэта... яна меркавала пра ўсё тое, што зьвязана з гэтым білецікам сказаць дачцы пасьля, а тут вышла вось не да ладу...—Гэта партбілет..,

І Вера прачытала на білеце матчына імя.

З новым прыступам радасьці, яна абняла маці, прытулілася ўсім целам і сьлёзы яе перамяшаліся з сьлязьмі маткі.

— Ну, як-жа-ж ты там?..—Пыталася ўсё матка і глядзела ёй у вочы...—Ну як-жа-ж ты там?..—І гладзіла пяшчотна валасы і выцягла свой грабенчык і расчэсвала дачцы валасы, так як рабіла, калі была малой.

— Ды ня бойся ,матанька. У нас у турме было весела...—Мацеры здалося, што з яе зьдзекуюцца. Яна абвяла поглядам прысутных, шукаючы сьмешлівых поглядаў—ды сустрэла на тварах спагаду да сябе і ўсхваляванасьць. І тады яна памякчэла.

„Чуеш, маці, мы атрымалі тэлеграму адгэтуль і вялізнымі літарамі вугалем мы перапісалі яе на сьценах камер.

Мы напісалі:

— Віншуем. Цалуем. Хутка ўбачымся“.

Маці моцна сьціскала Веру ў сваіх абыймах, хацелася ёй працягнуць як мага болей слодыч першых хвілін спатканьня. Баялася, каб зноў у яе не адабралі дачушкі Веры.

Яна ўглядалася ў твар дачкі і знаходзіла ў ім усё новыя і новыя рысы. Яна адчувала ўсім сваім нутром, усімі фібрамі маткі—як стамілася дачка, як схудала яна, і маці зноў хацелася заплакаць.

— Камсамолачка ты мая!..

А Вера прыхіліўшыся да маткі ціха гаварыла:

— Мы перад ад'ездам павыкрэсьлівалі гэтыя словы. Мы пакінулі толькі два апошніх:—„хутка мы ўбачымся“. Так, мы хутка ўбачымся! Хутка спаткаемся! Але на гэты раз ня ў ролі зьняволеных! Мы спаткаемся ў адзіным Саюзе рэспублік! Прыдзе час мы зьяднаем у адну вольную савецкую рэспубліку, Беларусь Заходняя—стане вольнай.

— Ну чаго-ж ты сумуеш маці?! Радавацца трэба!!

І сэрца мацеры поўнілася гонарам.

Якое шчасьце быць маткаю такой дачкі!

15-16 верасьня
1932 г.
Менск

**Мэханізаваная выгрузка збожжа з вагонаў у склады лентачнымі транспарцёрамі на складзе Бранскага загат-збожжа.**



# ГЕРОІ ОРДЭНУ ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЬЦЯГУ БССР

Фото М. МАЗЕЛЕВА



т. Пушчын, Ф. Ф.—за актыўны ўдзел у партызанскім руху і ўдзел у барацьбе за вызваленьне Беларусі ад белапалякаў.



т. Сіманоўскі, Я. Б.—за актыўную працу на фронце нацкультб. д ўніцтва.



т. Віткоўскі--Інжынэр, начальнік 5-га дарожн. будаўн. вучастка.



т. Майстрах—Інжынэр, тэхнарук сэктару мэханізацыі Белдарбуду.



т. Залескі — старш. калгасу „Перамога" за ўдарную працу на дарожным будаўніцтве.



т. Адзінцоў--за актыўны ўдзел у арганізацыі партызанскага руху і падпольнай рабоце.



т. Сільвестраў — старшыня Крупскага РВК, за заслугі па будаўніцтву шасэйнай дарогі Менск-Ворша.



тав. Бясхітроў—за актыўны ўдзел у пабудове АТС.



т. Элкснэ, Ул. А.—за актыўны ўдзел у барацьбе з бандытызмам.



т. Сенькін, Л. Н.—арганізатар партызанскіх атрадаў, за адданую працу на фронце грамадзкага харчаваньня.



т. Белаш-Журко—за актыўны ўдзел у барацьбе з контр-рэвалюцыяй, за прыкладную службу у войсках ДПУ.



т. Арш, М. І.—канструктар, тэхнік, за рацыяналізацыю працы і вынаходзтвы на акулярнай фабрыцы.



т. Еўстаф'еў, Х. Х.—рацыяналізатар, мэханізатар работ на чыгунцы.



т. Марзон, Ул. Я.—за мадыц. і матар'яльную дапамогу камуністам у г. Бабруйску ў часе белапольскай акупацыі.



т. Марзеў, М. П.—за адданую працу па арганізацыі вытворчасьці штучнага валакна.



т. Фрумкін—Інжынэр, начальнік Галоўдартрансу.

МІХАСЬ БАГУН

# НОВЫ ДОМ

*НАРЫС*

Яна была—як дзіда, запушчаная ў неба рукою волата: доўгая, імкнёная. Віхры, што ўзьняліся ў момант узмаху рукі, накіраваныя сілай інэрцыі, рынуліся за ёй—і дзіда ня вытрымала іх шалёнага напору—тулава яе перакруцілася на сярэдзіне, сагнулася, завілося ў шрубу. Зямля, падаўшыся за віхрамі, уздулася няўклюдным пукатым гарбом, ашчацінілася яловай поўсьцю.

Так яно ўсё і застыла. Скалечаная дзіда зьмярцьвела на паўдарозе да неба. Віхры разьвеяліся бяз сьледу ў касьмічных акіянах, уздуты горб зямлі аброс густым ельнікам.

Дзіда—гэта вялізная стромкая хвоя. Сонца ўранку і ўвечары залоціць яе мёртвую вяршаліну. І стаіць гэта хвоя не адну сотню год на земляным гарбе. Сяляне называюць гэты горб Мядзьвігай. (Для тых, хто не разумее па беларуску—Мядзьведзіца). І сапраўды—ён, гэты горб, здалёк нагадвае дужую медзьвядзіную галаву, абкружаную злосна нашатыранай поўсьцю—ельнікам.

Густыя хваёвыя лясы, што з усіх бакоў зялёна-сінім морам абкружалі Мядзьвігу, з кожным годам рабіліся ўсё радзейшымі ды радзейшымі: драпежнік-пан без разбору продаваў лясы, маючы на мэце адно: жыць, піць, гуляць, а пасьля нас—хоць трава не расьці.

Штогод веснавыя і восенскія разьлівы Бярозы зносілі ў Дняпро—і далей—у Чорнае мора—тысячы пнёў дарагога карабельнага лесу.

Нашчасьце, пан не пасьпеў спусьціць па Бярозе ўвесь лес: прышла рэвалюцыя і пану дала па шапцы, а лес перадала ва ўласнасьць дзяржавы.

Новыя гаспадары завялі новы парадак у лесе: секлі з толкам, падзяліўшы лес на роўныя вучасткі. Адзін год секлі адзін вучастак, другі год—другі, пакуль сякера дабярэцца да апошняга вучастку—на першым зноў зашуміць, загамоніць з ветрам густы стромкі хвойнік.

Аднаго разу, ядраным зімовым ранкам, сонца апошні раз акрывавіла мёртвую вяршаліну хвоі, што стаяла над Мядзьвігай. Прышлі людзі, сьпілавалі вялізную хвою, а калі яна з трэскам і гудам, ломячы густы ельнік, абвалілася на зямлю, сказалі:

— Эт, дарэмна зрэзалі: пярэкрут. Згніе цяпер толькі...

— Не за панам: ня згніе... У горадзе дадуць рады—знойдуць ёй месца...

І людзі парэзалі перакручанае, смалістае цела хвоі на доўгае бярвеньне. Вяршаліну і скручаную сярэдзіну пакінулі на дровы, а доўгі таўсты камель коні сьцягнулі на рум, на бераг Бярозы.

---

Пытаньне стварэньня добрага і разам з тым таннага жыльлёвага будынку займала чалавечую думку з даўных пор.

Колісь чалавек жыў у каменнай пячоры. У пячоры ён начаваў, у пячору ён хаваўся ад сваіх спрадвечных ворагаў—



**Запраўка рамы ў стандартным доме**

крывяжэрных дзікіх зьвяроў. Пячора давала чалавеку прытулак і ў часіны, калі над зямлёю нясустрымна бушавалі грозныя стыхіі.

Гэта было колісь.

У наш час паведамленьне аб тым, што дзе-небудзь збудавалі каменны дом на некалькі дзесяткаў паверхаў наўрад ці дужа зьдзівіць каго. Людзі прызвычаіліся карыстацца ўсімі перавагамі будаўнічай тэхнікі, трапна выкарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах усю яе дадатную практыку, будуючы самыя рознастайныя дамы і домікі.

Гэта—цяпер.

Пам ж каменнай пячорай і найноўшым шматпавярховым каменным домам, акрытыя густым туманам мінуўшчыны, ляжаць цэлыя эпохі самых разматіых багатых зьмен у разьвіцьці будаўнічага майстэрства.

З крывавай імжы далёкага сярэднявечча перад нашым спэкуляцыйным вокам выступаюць, уразаючыся ў неба, вострыя зубцы замкавых вежаў эпохі росквіту фэўдалізму. У пазьнейшыя часы, выклікаman да жыцьця бурным разьвіцьцём клясы гандлёвага капіталізму, зьяўляецца ажурны „рэнэсанс“.

Ды ці мала іх было між каменнай пячорай і сучасным шматпавярховым волатам-домам,—іх, стыляў, з якіх кожны сымбалізуе пэўную эпоху разьвіцьця чалавечага грамадзтва.

Працуючы над стварэньнем такіх волатаў жыльлёвага будаўніцтва, як гіганцкія нэў-ёркскія „небоскробы“, тэхнічная думка ня менш інтэнсыўна працавала і ў іншым напрамку—у напрамку стварэньня таннага і лёгкага ў сэнсе ўстаноўкі будынку.

Запатрабаваньні эпохі росквіту ваўнічага капіталізму, абумоўленыя вялізным разгортваньнем прамысловасьці, жаданьнем зручней рабаваць калёніі, паставілі перад будаўніцтвам задачу: знайсьці тып будынку, які пры найменшых затратах на яго збудаваньне і ўтрыманьне даваў-бы найбольшы жыльлёвы эфэкт. Патрэбен быў такі будынак, які і сам каштаваў-бы ня дужа дорага і каб на ацяпленьне яго ішло як найменш грошай—і апроч усяго гэтага—будынак павінен быць лёгкім, зробленым так, каб яго ня цяжка было перавозіць і ўстанаўляць на патрэбным месцы. Патрэбны былі вайсковыя рухомыя баракі, лёгкія пераносныя дамы для рабочых, занятых на работах, зьвязаных са зьменай месца (лесараспрацоўкі, розныя дасьледчыя экспэдыцыі і г. д.).

Гэткі, новы, тып дамоў узьнік упяршыню ў Швэцыі і Нарвэгіі.

Зусім зразумела, чаму на долю гэтых дзьвёх суровых паўночных краін выпаў гонар быць бацькаўшчынай стандартнага дому.

Апроч памянёных матываў, якія патрабавалі зьяўленьня новага стандартнага тыпу дамоў, у гэтых дзьвёх краінах быў і яшчэ адзін фактар, які паскорыў вырашэньне проблемы стандартнага дому. Гэты фактар—кліматычныя ўмовы.

Паводле статыстычных даных, у Нарвэгіі штогод расходуецца на жыльлёвае будаўніцтва *100 мільёнаў крон.* У гэтай краіне дамы апальваюцца на працягу большай часткі году і таму няма нічога дзіўнага ў тым, што на паліва, патрэбнае для ацяпленьня жыльлёвых будынкаў, у Нарвэгіі штогод расходуецца *150 мільёнаў крон.*

Гадавы расход на ацяпленьне ў паўтара разы перавышае гадавы расход на будаўніцтва.

Пытаньне эканоміі паліва дыктавала неабходнасьць знайсьці тып, дому які вымагаў-бы найменшых расходаў на ацяпленьне.

Гэткім домам зьявіўся стандартны дом.

Дабіўшыся значных дасягненьняў у справе разьвіцьця стандартнага будаўніцтва, тэхнічная думка нарвэскіх будаўнікоў і цяпер ня спыняе работы над далейшым удасканаленьнем стандартнага дому. Спэцыялісты з вышэйшай тэхнічнай школы, якая знаходзіцца ў гор. Трандгэйме і цяпер інтэнсыўна працуюць над канчатковым вырашэньнем праблемы добрага, таннага і экономічнага ў сэнсе расходваньня паліва дому.

---

Хвоя з „Мядзьвігі“, абсечаная, абрэзаная вострымі піламі, увесну, доўга плыла ўніз па Бярозе. Разам з ёй па вадзе плылі яшчэ сотні гэткіх самых даўжэзных стромкіх хвой. Бурная паводка загнала некалькі дзесяткаў хваёвых камлёў у шырокую, з усіх бакоў абрамленую чаротамі затоку. Пасьля вада спала, затока зарасла асакою, зацягнулася клейкім бага-



Прэсаваньне фібраліту (новы будаўнічы матар'ял) для стандартных дамоў.

віньнем. Доўгія, трывалыя сьцяблы белых лілеяў абвілі набраклыя вадой цяжкія камлі. Вадзяныя даўганогія павукі вылазілі ў поўдзень і застывалі на камлёх пад цёплым праменьнем чэрвеньскага сонца. Лупатыя зялёнасьпінныя жабы поўзалі па сьлізкіх дрэвах, спраўлялі седзячы на іх начныя свае канцэрты. Дрэва, набракаючы, усё глыбей ды глыбей асядала ў ваду.

Калі-ж прышла восень, зашумелі частыя дажджы, раскісла зямля і сьцежкі ў лясох укрыліся залатым кляновым лісьцем—вада ў Бярозе паднялася, вышла з берагоў.

Бурцыя хвалі выгналі з затокі мокрыя цяжкія камлі і разам з багавіньнем, разам з пераблытаным карэньнем ужо няжывых лілей, пагналі іх далей уніз.

Бярвеньне вылавілі ў Барысаве.

Мокрае, набраклае вадой, яно не магло быць выкарыстана на саломку для сярнічак. Не маглі яго скарыстаць таксама і непасрэдна для будаўнічых работ: што за будыніна выйдзе з мокрага матар'ялу?

Усё бярвеньне, а разам з ім і хвою з Мядзьвігі, пагрузіўшы на вялікія пляцформы, накіравалі ў Менск...

---

Для СССР стандартны дом—рэч ня новая. Распаўсюдзіўшыся па Заходняй Эўропе, галоўным чынам—па Германіі, ідэя стандартнага будаўніцтва перайшла і да нас. Ва ўмовах бурнага росту сацыялістычнага будаўніцтва, грандыёзнага разьвіцьця сацыялістычнай прамысловасьці, стварэньня буйных машынізаваных „фабрык хлеба", шпаркага прыросту колькасьці гарадзкога насельніцтва,—стандартны дом займае не апошняе месца.

Пачынаючы гаворку пра разьвіцьцё стандартнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе, трэба адзначыць, што ў той час, як у краінах капіталістычнага Захаду стандартнае будаўніцтва накіравана на задавальненьне інтарэсаў, галоўным чынам, дробнай буржуазіі (фэрмэры і інш.),—у нас стандартнае будаўніцтва пастаўлена на службу сацыялізму.

Пачаўшыся з Масквы, практыка стандартнага будаўніцтва пашырылася на ўвесь Саюз Савецкіх рэспублік. Украіна, Урал, Савецкая Поўнач—усе яны ведаюць, што такое стандартны дом. Новыя рабочыя гарадкі пры буйнейшых заводах Украіны і Уралу складаюцца цалкам з стандартных дамоў.

Цёпла, сьветла, суха.

Беларуская ССР таксама не асталася за бартом стандартнага будаўніцтва. У буйнейшых індустрыяльных цэнтрах Савецкай Беларусі пабудаваны з стандартных дамоў цэлыя рабочыя гарадкі і пасёлкі.

У Менску за Ляхаўкай раскінуўся роўнымі радамі зграбных новенькіх дамоў, шырокімі лінейкамі роўных, абсаджаных дрэвамі, вуліц, рабочы гарадок.

Гэта—пасёлак „Камінтэрн". У ім жывуць некалькі тысяч чалавек рабочых, занятых на менскіх фабрыках і заводах, і іх сем'яў.

Гэты рабочы гарадок пабудаваны выключна з стандартных дамоў. Стандартныя дамы і асобна раскіданы па вуліцах такіх гарадоў, як Менск, Гомель, Бабруйск, Віцебск.

Дзесяткі студэнцкіх інтэрнатаў разьмешчаны ў сотнях пакояў сьветлых, высокіх стандартных дамоў, пабудаваных у розных канцох гораду.

Стандартнае будаўніцтва шмат садзейнічае ліквідацыі вострага кватэрнага крызісу ў важнейшых гарадох БССР і мае ў нас вялікія пэрспэктывы для свайго разьвіцьця.

Беларусь мае шырока разгорнутую дрэваапрацоўчую прамысловасьць, адыходы якой зьяўляюцца дужа добрай сыравіннай базай для стандартнага будаўніцтва. З улікам гэтага і было створана ў БССР „Белстандартаб'яднаньне".

„Белстандартаб'яднаньне" мае тры заводы, на якіх вырабляюцца шчыты для сьцен стандартных дамоў. Заводы знаходзяцца ў буйнейшых прамысловых цэнтрах Беларусі—у Менску, Віцебску і Гомелі.

Гэтыя заводы працуюць выключна на мясцовай сыравіне, якую ім даюць дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы. Апроч гэтага на заводы „Белстандартаб'яднаньне" у якасьці сыравіны і ідзе мокры, няроўны ды інш. бракованы лес, ня прыдатны да выкарыстаньня ў іншых вытворчасьцях.

Прадукцыйнасьць кожнага з заводаў „Белстандартаб'яднаньня" — 100 двохпавярховых, васьмікватэрных, зборных шчытавых дамоў у год. Васемсот кватэр у дамох стандартнага тыпу штогод чакаюць пралетарскіх сем'яў.

---

Хмурным восенскім раньнем заклапочаны манэўровы паравозік падцягнуў да абабітых калючым дротам платоў заводу дзьве даўгіх вузкіх пляцформы, нагружаных бярвеньнем розных памераў і гатункаў.

Рухавыя сур'ёзныя людзі ў каляных брэзэнтавых рукавіцах паскідалі бярвеньне з пляцформаў на зямлю.

— Ну, і цяжкі-ж, ліха яму!—бурчэў сабе пад нос высокі чорнавусы грузчык, скідаючы з апошняй пляцформы апошні камель—руды, тоўсты, пакарабачаны.

Нарэшце, пасьля доўгіх намаганьняў, цяжка грукнуўшы, упарты камель пакаціўся па зямлі. Гэта быў камель хвоі, што стаяла калісь на Мядзьвізе.

Заклапочаны паравозік пачаў чмыхаць густой белай парай, прарэзьліва крыкнуў—і пабег на станцыю, цягнучы за сабою, як гулкі хвост, даўгія апусьцелыя пляцформы.

Людзі пачалі цягаць скінутае з пляцформаў бярвеньне ў прасторны двор заводу.

---

Майстэрня. Прасторна, сьветла, весела. У паветры плавае востры ядраны пах смалы. Да паху смалы далучаецца мяккі, крыху прэлы, сухі пах тарфянога моху. Тут зьбітыя з сасновых дошак сьценныя шчыты набіваюць сфагнумам,—спрасаваным торфяным мохам. Кожны шчыт складаецца з двух дашчаных сьценак і пустое прасторы між імі. Гэтая пустая прастора і запаўняецца сухім сфагнумам, прызначэньне якога—зьмяншаць, рабіць мінімальнай цеплаправоднасьць сьцен стандартнага дому.



Будаўніцтва стандартнага дому



**Менск. Новы квартал стандартных дамоў у пасёлку „Камінтэрн“ для рабочых—заводаў імя Варашылава і „Камунар“**

У некаторых канструкцыях стандартных дамоў прастора між сьценкамі шчытоў запаўняецца звычайным дрэўным пілавіньнем.

З майстэрні заводу шчыты выходзяць гатовымі да ўстаноўкі. Высокія, вузкія, пахучыя—яны стяць шырокім радам і чакаюць адпраўкі на месца ўстаноўкі дому. Там з іх праз месяц-другі вырастуць стромкія сьцены...

---

Увосень 1931 г. на пажарышча, што недалужнай бруднай плямай лысела на самай гары на рагу дзьвёх вуліц—Дрэвапрацоўчай і Кладбішчанскай, зьявіліся незнаёмыя нікому людзі.

Абмераўшы пажарышча сталёвай зьмейкай рулеткі, запісаўшы ў блёкноты лічбы абмеру, гэтыя людзі зьніклі таксама няпрыкметна, як і зьявіліся.

Праз колькі часу пасьля іхнага зьяўленьня да лысіны старога пажарышча пачалі пад'яжджаць нагружаныя цікавымі вялізнымі скрынямі падводы. Падводы прыяжджалі, складалі „скрыні“ вялізарнай гурбай на зямлі, і зноў ад'яжджалі.

— Што гэта будзе?—дзівіліся мясцовыя абывацелі, і, не знаходзячы адказу, з цікавасьцю чакалі,—што будзе з гэтых скрыняў.

Прышла вясна—і на гары, на рагу дзьвёх вуліц, на месцы былога пажарышча, што недалужнай бруднай плямай лысела між наўкольных будынкаў,—вырас дом.

Высокі і прыгожы, з дзесяткамі бліскучых вакон ён стаіць, узвышаючыся над пакрыўленымі, скасабочанымі хаткамі гарадзкой беднаты, як колісь хвоя на Мядзьвізе ўзвышалася над густым шчапіньнем прысадзістага ельніку.

Гэты дом—інтэрнат аднаго з Менскіх індустрыяльных тэхнікумаў. Увечары вокны яго гараць белым электрычным сьвятлом. У пакоях шуміць, працуе, адпачывае неўгамаваная савецкая моладзь. Здалёк дом здаецца белай выспай сьвятла сярод мора густога восенскага змроку.

Колісь сонца ўранку ружавіла сінюю карону хвоі з Мядзьвізі. Цяпер, падымаючы з-за кругавіду крывавую галаву, яно перш-на-перш бачыць гладкі бліскучы дах высокага сьветлага дому на рагу дзьвёх вуліц.

Гэты дом—стандартны.

Менск, лістапад 1932 г.



**Нова-Беліца. Новы дом жылкааперацыі—пад рабочыя кватэры**

ЗЬМІТРОК АСТАПЕНКА

# КАХАНЬНЕ ВІТАЎТА ПУТНЫ

Ажаніўся Вітаўт Путна,
Як вярнуўся цэлым з бою.
Шапку з зоркай пяцікутнай
Ён прынёс з вайны з сабою.

Адшумелі бойкі шротам
І ліхім казацкім сьпевам.
На плячох шынэль падзёрты,
Ад вінтоўкі сьлед на левым.

Завіталі на вясельле
Два таварышы з заводу.
На вясельлі пілі, елі,
Ўспаміналі пра паходы.

Так кахаў Галіну Вітаўт,
На руках, як ляльку, гушкаў...
Млела думка ў думцы смутнай,
Сэрца білася, як птушка.

І адзін ваяка сьмелы,
Ўстаўшы, шлем на кудры ссунуў:
— Здэцца сьвет прайшоў я цэлы,
А такой ня меў красуні!

Абяцаў Галіне Вітаўт
Не пакінуць больш ніколі...
Дні праймчаліся, нібыта
Кавалерыя па полі.

---

Заляцелі весткі ў вёску,
Палі ў дол агністым знакам—
„На каня! За стрэльбу! Ў войска!..
Даць адпор белапалякам!“..

А праз дзень прымчалі конна
Два таварышы з заводу.
— Путна, зноўку непакойна!..
— Путна, чуеш—зноў паходы!

На палёх у думцы смутнай
Стан вайны ўстае агністы.
Як ты кінеш жонку, Путна?
Путна, лепш ты-б не жаніўся!..

Па-над краем вее замець,
Дабравольцаў не палічыш...
Путна, хочаш ехаць з намі?
Путна, край да бойкі кліча!

Вечар цьмеў і цьвіў вяргіняй
І згасаў за сонцам сьледам.
Путна плуг адпрог і кінуў,
Путна з плачам крыкнуў: еду!..

— Жонка, кліча край да бою...
Еду, кінь, ня плач, Галіна!..
Шлем ізноў бяру з сабою,
А шынэль кідаю сыну.

---

Як ты кінуў жонку, Путна?
Сына й шнур недаараны?
Па падлесьсі ў дымцы смутнай
Едуць польскія уланы.

Няхай пушча будзе сьведкай,
Хай пасьведчыць ў небе месяц,
Што чырвоная выведка
Слаўна білася на ўзьлесьсі.

І пабілі-б іх, няйначай,
Каб было чырвоных болей...
Штось сава ў гушчары плача,
І скрыпяць асіны з болю.

Завілася ў жальбе думка,
У палон як быў узяты...
Да апошняга ладунка
Біўся мужна і зацята.

Павялі... і гнеўны месяц
Пад чырвоны колер цэглы
Вартаваць застаўся месца,
Дзе чырвоныя палеглі...

---

Хто пасьведчыць, што аслаблі
У Палоне ў Путны сілы?
— Раскажы ўсё чыста, д'ябле!,
— Не раскажаш, чортаў сыне?

Катавалі, як найлепей—
З палам, з смакам, азьвярэла...
Быў крывёю твар залеплен,
Як цягнулі да растрэла.

Што цяпер ты скажаш, Путна,
Непахісны хлопча, цьвёрды?
Шапка з зоркай пяцікутнай
Сьмерці ў твар зірнула горда.

— Я аб тым, адно, шкадую,
Як пакінуў жонку дома,
Што ў палон выпадкам, здуру
Гэтак трапіў падурному.

І яшчэ адну я маю
Думку-жальбу ў сваім сэрцы:
Хто раскажа жонцы й краю
Аб маёй паганай сьмерці?

Хто адпомсьціць гэтым зломкам,
Гэтым панскім карабінам?
Да таварышаў далёка,
А яшчэ далей да сына.

Ты адпомшчан будзеш, Вітаўт
Помста будзе страшнай, грознай...
За падлесьсем гул капытны.
Мчацца конна... мчацца... Позна...

Але грымне бой з запалам
На тым месцы сьмерці Путны,
Дзе прастрэленая ўпала
Шапка з зоркай пяцікутнай.



АНДРЭЙ УШАКОЎ

# ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ МІЛІЦЫЯНЭРА НЯМІРЫ

*НАРЫС*

Золкая раніца. Адзінока выкалыхваецца трамвай з дэпо. Звон яго абуджае сонную цішу вуліц і пошчак пудліва туліцца па надворках камунальных дамоў у вадкаватым сутоньні. Гэта першыя сыгналы прабуджэньня гораду. Крыху згадзя па панэлі шоргаюць дзелавыя сьпешныя крокі. Рабочыя ідуць на працу. У такую пору выходзіць з дому і Антон Карпавіч. Асеньні вецер праймае сьцюжаю, залазіць пад міліцэйскі шынэль і абдае цела сьвежасьцю. Антон Карпавіч прывык да ўсякага надвор'я, стоячы каля міліцэйскай будкі. Зьмяніўшы свайго сябра вартавога, ён стаў ля фабрычнай брамы. Праз некалькі хвілін пачынаюць праходзіць рабочыя, спачатку па адным, потым плывуць з рэчышча вуліцы густым крыгаходам. Цяпер трэба пільна сачыць, ці ва ўсіх маюцца пропускі. Днём — вальней. Тады ходзяць грузныя аўтамабілі гружаныя тоўстымі скруткамі сукна, прывозяць ежу для фабрычных цэхоў, адтуль забіраюць гатовую прадукцыю—паліто і гарнітуры і развозяць па каапэратывах. Шофэр аддае пропуск міліцыянэру і едзе сваёй дарогаю... На першы погляд здаецца, што міліцыянэр, гуляючы, выконвае свае абавязкі, але гэта ня так. Кожная прафэсія мае свае асаблівыя клопаты, барацьбу за чоткае выкананьне абавязкаў. І ў гэтых клопатах задавальненьне і буднічная радасьць Антона Карпавіча. Цьвёрдасьць натуры і настойлівасьць патрэбны ў міліцэйскай справе. Фабрыка вялікая, рабочых шмат і ўсе яны праходзяць праз калідор. Міліцыянэр кожнага пільна акідвае вокам, тут патрэбна шпаркая кемлівасьць, бо людзі тут featuring рознага гатунку; старыя рабочыя, фабзавучная моладзь, вясковыя, нават абывацалі. Фабрыка іх яшчэ не пераварыла ў сваім катле, у некаторых рабочых свае ўласьніцкія інтарэсы вышэй за інтарэсаў рабочага калектыву.

Ніна—добрая знаёмая Антона Карпавіча. Заўсёды вясёлая, пры ўваходзе на фабрыку ўсьміхаецца яму, часамі калі нязбойна каля дзьвярэй, прыстоіць пагаварыць. Але і на знаёмых нельга спадзявацца. Вось так і атрымалася сёньня. Бокам, хаваючыся за рабочых ля сьцяны, ідзе Ніна. Вочы палахлівы. Яна паскарае ход, але міліцыянэр спыняе. Сур'ёзным, заўсягдашнім тонам, якім гавораць пры выкананьні службовых абавязкаў, спыняе яе:

— Нешта ты ідзеш, быццам за табою гоняцца?.. — Яна міжволі пазірае ўніз. Наважаецца сказаць, што пільна трэбаісьці дахаты, але, зьбялеўшы, на поўслове абрывае сказ. З-пад паліто спаўзла калашына штаноў.

— Што гэта ў цябе?—запытаў міліцыянэр. А ну, пакажы?!.

— Глядзі, мужчынскія штаны надзела. Іш ты, умудрылася,—зарагаталі з натоўпу. Ніна рассьцяралася. Пад агульны рогат рабочыя сьцягнулі з яе штаны. Яна ўся гарэла ў агні сораму. Яна жадала-б цяпер праваліцца скрозь зямлю, толькі каб ня бачыць і ня чуць кплівыя дакорлівыя погляды сваіх знаёмых.

— А калі-б усе пачалі красьці. За адзін дзень усю-б фабрыку да апошняй цаглінкі расьцягнулі. У каго крадзеш?.. У самой сябе, з свайго-ж рабочага кішэню.

Пасьля яна ціха дакорліва кінула.

— А яшчэ знаёмы...

— Ня трэба мне гэткага знаёмства. Перш за ўсяго я выконваю свой абавязак. Што-ж я ў міліцыю паступаў зладзеяў ахоўваць? І рабочыя адчуваюць у гэтых цьвёрда сказаных словах праўду і непахіснасьць Антона Карпавіча.

* * *

На стале стаіць апарожненая „батарэя“ бутэлек. Рыжкоў—стары токар, хлябнуўшы з шклянкі віна, разбаўленага півам, жыліцца дастаць аслабленымі рукамі няголены, ёжыкаваты твар суседа па варштату Лобава, каб пацалавацца. Не дастаўшы бярэцца за бутэльку і налівае ў шклянку. Закусваючы соленым гурком, перажоўваючы (ледзь разабраць расьцяглыя словы яго) кажа:

— Мы што? Самі сабе гаспадары!. Пляваць на ўсіх. Мы з табой пілі?—пытаецца ён у Лобава.

— Пілі,—адказвае той.

— І піць будзем, а ўдарнікам шыш.—Пры гэтым ён падносіць кукіш пад нос свайму суседу. Той у дзікай радасьці скаліць зубы і дадае:

— І прагульваць будзем. А тады, спахваціўся быццам ня тое сказаў.—

— Ведаеш, кум?

— Не, ня ведаю. А што?..

— Заяву падаваў, разрад каб падвісілі, дык дзе там—і гаварыць ня хочуць. А ўсё гэта мой сусед, як яго—рэдкалегіеўскі ў ударнікі хоча на чужой скуры выехаць, у газэтку прадрукаваў:—„Лобаў прагульшчык“!.. А?..

— І ты ад свалаты церпіш?..

— Я цярплю?—запытаўся Лобаў сам у сабе. Устаў з крэсла, як-бы з гэтакага пункту было відней і зьдзівіўся сваім словам што ён і ў сапраўды „церпіць“. — Ня буду шалахвастам падчыняцца! Я яго правучу!..



Менск. Механічнае рэгуляваньне аўто і трамвайнага руху (з дапамогаю сьветлавых сыгналаў).

Загроб у руку са стала вілку і вышаў на сярэдзіну пакою.

— Думаеш цярпець буду?.. Пайду хоць напалохаю. Ізлосьць расплаўленым мэталем кіпела ў яго словах... За ім узьняўся і Рыжкоў.

* * *

Толькі што скончыўся час рэзэрву. Цяпер Антон Карпавіч сядзіць у пакоі міліцыі і з другім міліцыянэрам, гуляе ў шашкі. Гуляе ён з смакам, кожны ход прымае да сэрца, абмяркоўвае, за паражэньні хвалюецца. Але перамога, відаць, будзе на баку Антона Карпавіча. Але партыі дакончыць не давялося. Увайшоў начальнік і загадаў:

— Т. Журомскі. На чыгуначным пасёлку, на Жлобінскай вуліцы, напад п'яных на грамадзкага працаўніка. Зараз расьследваць!..

— Т. Начальнік, дазвольце мне расьсьледваць гэтую справу. Маё дзяжурства скончана, але людзей у нас малавата. Можа яшчэ куды трэба будзе ісьці, а то я хутка пайду да хаты.

— Ну, шпар!..

— Ёсьць.—І статная яго фігура шпарка зьнікае за дзьвярыма.

— Вось у каго акуратнасьці і настойлівасьці трэба вучыцца,—пахваліў начальнік. Усе-б гэтак працавалі. Ня гледзячы, што адпрацаваў свой час, усёроўна ідзе на расьсьледваньне. І падумаў: „Пямпра ўжо ня раз прэміяваны. Хутка будзем сьвяткаваць 15-ю гадавіну міліцыі — трэба прэміяваць яшчэ. І сапраўды, Антон Карпавіч добра працуе. Ён яшчэ 10-гадовым хлапчуком часта з вёскі прыяжджаў у горад. Тады яго дзядзька служыў начальнікам гарміліцыі 2-га вучастку. Ён браў у рукі наган, цешыўся ім і прасіў дзядзьку як падрасьце, каб той узяў да сябе на службу. Але вышла так, што лятуценьні хлапчука спраўдзіліся, толькі іншым шляхам. Ён быў ужо тады больш дарослым, як дзядзьку прывязьлі забітага бандытамі і перад нябошчыкам ён даў абяцаньне сабе, што абавязкова адпомсьціць за дзядзьку. Цяпер пасьля службы ў Чырвонай арміі Антон Карпавіч ужо два гады працуе ў міліцыі.

* * *

Рыжкоў і Лобаў праз поўгадзіны зноў сядзелі за ранейшым сталом і пілі.

— А лоўка ты, кум, яго выцяў табурэтам,—пахваліў Лобаў.— Што-ж з ім цацкацца. Ня прыгрозіш, дык на галаву нагадзяць.

— І ты яму ня дрэнна шкрабануў вілкаю...

— У хрыбёціну... факт... Ня будзе кожны пасьля гэтага назаляць. І радыя, што крышку „напужалі“ ненавіснага ім рабкора, узьнімаюць бакалы. Але толькі паднесьлі да вуснаў, у дзьверы хтосьці настойліва пастукаў. Яны ўскочылі з месца. Мусіць „ён“,—упэўнена сказаў Рыжкоў.—Хапай бутэльку, а я дзьверы адчыняць буду. Гваздані яго, каб радні не пазнаў. Іш, шкарэда, стукае!..

Адзін стаіць за вушаком дзьвярэй, другі адчыняе іх. І... бутэлька выпадае з рук. У хату ўвайшоў міліцыянэр. П'янства Лобава, як ветрам выдзьмула. Захаваўшы хваляваньне, ён ліслíва бяручы за руку міліцыянэра, ідзе да стала:

— Як раз упору трапілі...

— Я заўсёды ўпору прыходжу,—суха прaказаў Антон Карпавіч.

— Госьцем у нас дарагім будзеце. Кожны чалавек ня прэч павесяліцца. Сядайце. І ён зразу паднёс міліцыянэру нявыпітыя імі два бакалы „ярша“.

— Ня дуры, барада. Пастаў бакалы на стол зноў. Зьбірайцеся на допыт. Што вы сьп'яна нарабілі?!.

Мы з „ім“ толькі пажартавалі. Пужнулі ў вакно, а ён мабыць уцяхаўшы zаваліўся і расквасіў нос,—схлусілі Рыжкоў і Лобаў.

— Ну, меней слоў! Я вам загадваю: зьбірайцеся!

Лобаў лезе ў кішэню.

— Чаго нам злавацца, кум (гэта на міліцыянэра). Давай міравую... Ведаю я жыцьцё міліцэйскае. Усюды ідзі ўначы, у непагоду, разьбірай чужыя непаладкі, пратаколы пішы. Вазьмі, чалавеча, траяк ды сядзь, вып'ем за здароўе... А там пойдзеш у міліцыю, скажаш, нічога ня было.

— Схавай грошы, ды барджэй зьбірайцеся. Лобаў,—памяўшыся, пачаў зьбірацца. Ужо па дарозе ён праказаў:

— От раней прыдзе стражнік, ты з ім вып'еш, уціснеш у далонь які траяк і справа скончана. Гэта-ж яго хлеб. І воўк сыты і козы цэлы.

— Э-э, дзед, куды загнуў. На 15 год ты з гэтым спазьніўся. У нас цяпер ня тое. Што-ж я буду здраджваць краіне? Што скажуць у адказ працоўныя?.. Я павінен цьвёрда ахоўваць дзяржаўную маёмасьць і рэвалюцыйную законнасьць працоўных. І Антон Карпавіч гэта па-ўдарнаму выконвае.

---

Фото СЕМЕНЯКІ

## НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ БУДАЎНІЦТВА БССР

На 1933 г. намечана будаўніцтва „Дому Пісьменьніка“. Дом будзе будавацца на рагу Унівэрсытэцкай вул. і Пралетарскай набярэжнай. Архітэктарам Лаўровым складзены праэкт дому. На здымках: зьверху—разгляд праэкту дому Наркамасьветы тав. Платуном, зьнізу: агульны выгляд „Дому Пісьменьніка“ паводле праэкту тав. Лаўрова.





Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

# ШАХМАТЫ № 18 (28) 1—15-XII—32 г.

Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА

## Падрыхтоўка да сусьветнай спартакіады—стрыжань працы кожнага калектыву фізкультуры, кожнай шах.-шаш. сэкцыі

З 15-га сьнежня па 15 студзеня 1933 г. шахматна-шашачная арганізацыя Беларусі — правядзеньнем масавых фабрычна-заводзкіх, калгасна-саўгасных і іншых шах.-шаш. спартакіяд—распачынае падрыхтоўку да сусьветнай спартакіады. Шах.-шаш. спартакіады павінны быць праведзены ва ўсіх без выключэньня прадпрыемствах, МТС, школах і г. д. Ад таго, як будуць праведзены спартакіады, наколькі імі будуць ахоплены шырокія колы працоўных — залежыць уся далейшая праца падрыхтоўкі да Сусьветнай спартакіады. Трэба каб шах.-шаш. спартакіада на прадпрыемстве спрыяла росту ш.-ш. сэкцыі, павышэньню яе працаздольнасьці, яе арганізацыйнаму замацаваньню, а там, дзе яе няма — утварэньню. Гэта магчыма дасягнуць толькі тады, калі ўся ш.-ш. арганізацыя мабілізуе свае сілы вакол задач падрыхтоўкі да Сусьветнай спартакіады; калі па баявому на аснове пастаноў V Усебеларускага і VII Усесаюзнага ш.-ш. зьездаў, мы зараз-жа прымемся за працу.

Зараз-жа разгорнем агітмасавую працу, папулярызуем 4 асноўных лёзунгі Сусьветнай спартакіады.

Не павінна быць ніводнага рабочага, калгасьніка, служачага, студэнта, ІТР—ня ведаючага аб набліжаючымся сьвяце завяршэньня 1-й пяцігодкі. Актыўным удзелам у фабрычна-заводзкіх фізкультурных і шахматна-шашачных спартакіадах паскорым і палепшым падрыхтоўчую работу да спартакіады.

Сапраўдна-масавай, перабудаваўшай сваю работу па вытворчаму прынцыпу, павінна прыйсьці шахматна-шашачная арганізацыя БССР да сусьветнай спартакіады.

**П. Губчэўскі.**

* * *

* **Шахматна-шашачныя спартакіады** на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах, МТС, ВНУ, у часьцях Чырвонай арміі будуць праведзены з 15 сьнежня па 15 студзеня 1933 г. Да ўдзелу ў спартакіадах дапушчаюцца ўсе працуючыя на даным прадпрыемстве і члены іх сямей.

* ВСФКБ усклаў адказнасьць за правядзеньне спартакіад на бюро калектываў ФК, якія сумесна з ш.-ш. сэкцыяй вылучаюць штаб для кіраўніцтва спартакіадай.

* Штаб арганізуе шырокую агіт-масавую работу па ўцягненьні ў спартакіаду ўсіх умеючых гуляць у шахматы і шашкі. Спартакіады пачынаюцца ўрачыстым адчыненьнем на агульных сходах рабочых, на якіх пасьля афіцыйнай часткі неабходна правесьці шэраг масавых мерапрыемстваў: сэансы, бліц-турніры, мастацкія выступленьні.

* Усе ўдзельнікі разьбіваюцца на групы ня менш 10 асоб у кожнай. Ігра праходзіць па алімпійскай сыстэме. Кожны праіграўшы альбо зрабіўшы 2 нічыі ў шахматы, і праіграўшы дзьве партыі альбо зрабіўшы 4 нічыі ў шашкі выбывае з далейшых спаборніцтваў.

Ігра ў групах працягваецца да таго часу, пакуль не застанецца адзін пераможца. Калі ігра праходзіць некалькімі групамі, то заняўшыя першыя тры месцы складаюць фінал. Фінал праводзіцца па правілах звычайных турніраў (кругавая сыстэма).

Па сканчэньні спартакіады штаб адчытваецца на бюро ФК, а апошні зацьвярджае вынікі спартакіады і паведамляе ш.-ш. сэктар РСФК.

* **Шахматна - шашачную частку Ўсебеларускай спартакіады** мяркуецца правесьці па наступнай праграме:

1. Індывідуальны шахматны турнір БССР.
2. Індывідуальны жаночы шахматны турнір.
3. Індывідуальны шашачны турнір БССР.
4. Камандны розыгрыш прафсаюзаў па шахматам і шашкам.
5. Ш.-ш. турнір фабрычна-заводзкіх сэкцый.
6. Ш.-ш. турнір калгасна-саўгасных сэкцый.

* У шахматна-шашачнай частцы Ўсебеларускай спартакіады прыме ўдзел 250 асоб. З іх 150 іншагародніх, 85—Менск і 15 персанальна запрошаных з іншых рэспублік.

## ХРОНІКА

**Менск**

Зьезд паставіў перад усімі ш-ш. арганізацыямі БССР задачу—перабудаваць сваю работу і наблізіўшы яе да вытворчасьці зрабіць ш-ш. масавым рухам працоўных. Для гэтага на 10 буйнейшых прадпрыемствах Менску (заводзе імя Варашылава, „Камунар“, „Бальшавік“, „Усход“ і г. д.) арганізуюцца пры бюро ФК шахматна-шашачныя сэкцыі. Сэкцыі будуць забясьпечаны кіруючым актывам Мен. ГСФК. Побач з гэтым па гораду будуць працаваць ш-ш брыгады пры клюбах: імя Сталіна, імя VII зьезда прафсаюзаў, машынабудаўніцтва і працасьветы.

Распачынаюцца масавыя спаборніцтвы прысьвечаныя Сусьветнай спартакіадзе.

Для падвышэньня кваліфікацыі будуць праведзены кваліфікацыйныя турніры. Акрамя гэтага прадугледжан матч шах-шаш. каманды Менску з Харкавам ці Ленінградам. **Гардон**

**Барысаў**

Арганізавана ш.-ш. сэкцыя пры РСФК (старшыня Муркіс) Сэкцыя распачала працу па барысаўскіх прадпрыемствах („Камінтэрн“, „Пралетарская перамога“ і інш.). Створана ш.-ш. база пры клюбе „Камінтэрн“ (Нова-Барысаў). Працу можна было-б разгарнуць значна шырэй, але РСФК і райпрафсавет марудзяць з водпускам патрэбных сродкаў.

**Соб і Мур.**

## Удзельнікі ўсебеларускіх шахматных спаборніцтваў пракваліфіцыраваны

На апошнім пасяджэньні Вышэйшай Кваліфікацыйнай Камісіі пры Выканбюро Шахсэктару ВСФКБ пракваліфікаваны ўсе ўдзельнікі Ўсебеларускіх шахматна-шашачных спаборніцтваў.

Годнасьць ігракоў першай Усесаюзнай катэгорыі па шахматах атрымалі і пацьвердзілі т. т. Сташэўскі, Касьперскі, Падольны, Насьцюшонак, Маневіч, Шалаеў, Бабурын, Шэвельман і Ройнінсон; па шашкам: Школьнік, Берлінкаў, Зісерсон, Гардзевіч, Розэнблюм, Пэўзнер (Гомель), Ракітніцкі і Храпуновіч.

2-ю Ўсесаюзную катэгорыю атрымалі па шахматам Кацнэльсон, Абельсон, Гурвіч, Камянецкі, Парэцкі, Сатнікаў (па групавому турніру),Вечар, Зысьман; Кейлес і Прупэс (па камандным спаборніцтвам). Пераможца жаночага турніра т. Мееровіч, таксама атрымала годнасьць ігрока 2-ой усесаюзной катэгорыі.

Па шашкам: т. т. Іваноў, Эзрохін, Хацяновіч, Лабоўскі і Гарадзецкі (па групавому турніру), Ліхтарман, Шыхатовіч, Кроль, Гелемсон і Ліхадзееўскі (па камандным спаборніцтвам).

3-ю катэгорыю па шахматах.

Па жаночаму турніру: Сабалеўская і Гарб.

Па групавому турніру: Бабіцкі, Фёдараў, Каралёў, Зубкоў Муркіс і Чэрняўскі.

Па каманднаму турніру: Файштэйн, Клейн, Брукер, Камінскі, Эцін і Размыслоў, Па шашках: у групавым турніры: Гордзін, Пэўзнер (Магілеў), Шэрбэр і Плаўнік.

На каманднаму турніру: Сьмірноў, Шнэйваст, Гарбуноў, Батаеў, Лэках і Эцін (з-д Варашылава).

Т.т. Расіхіна (Полацак), Ліпман і Мотуз па жаночаму турніру, Сісінаў і Лубяніцкі па каманднаму атрымліваюць 4-ю катэгорыю, па шахматах: т.т. Абароўскі, Белінкоў, Шэр і Тарлацкі (з-д Варашылава) 4-ю па шашках.

Аддзел чакае матар'ялу аб становішчы шахматна-шашачнай работы і падрыхтоўцы да Сусьветнай спартакіады ад т.т. Шалаева, Іванова, Сташэўскага, Гарадзецкага, Чэрняўскага і Шэўчука.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 3088. 2250 экз. Галоўлітбелу №а 1325.

Цана 25 кап.

# ПАДПІШЫСЯ на 1933 г

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухты



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1933 г. будуць зьмешчэны:

**Апавяданьні:** С. Баранавых, Іл. Барашкі, З. Бядулі, А. Вольнага, Даўгапольскага, М. Зарэцкага, Ц. Зарэчнага, В. Каваля, Л. Калюгі. Р. Кобэца. М. Лынькова, Я. Ліманоўскага, Б Мікуліча, Р. Мурашкі, Я. Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Я. Скрыгана, В. Ста-шэўскага, М. Чарота, К. Чорнага, П. Швэйдэля і інш.

**Вершы:** А. Александровіча, З. Астапенкі, С. Астрэйкі, М. Багуна, Бацюшкава, Я. Бобрыка, П. Броўкі, П. Глебкі, С. Грахоўскага, А. Дудара, А. Звонака, Я. Коласа, А. Куляшова, Я. Купалы, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, В. Маракова, Ю. Таўбіна, Ул. Хадыкі, І. Харыка, М. Хведаровіча, М. Чарота, і інш.

**Крытыка:** М. Аляхновіча, праф. А. Барычэўскага. Л. Бэндэ, В. Вольскага, Ф. Выхадцава, С. Куніцкага, А. Кучара, Моіна, Ал. Некрашэвіча, Б. Норда, Рахленкі, А. Салогува, Л. Селіванавай, Усса, Я. Шарахоўскага і інш.

**Нарысы:** Р. Жалезьняка, Я. Жука, С. Знаёмага, Р. Кутылоў кага, А. Ліп ?вага Ю. Лявоннага, У. Мяжэвіча, С. Нортмана, З Паваротнага, В. Палескага, М. Пасьлядовіча, А. Ушакова, Хв. Шынклера, У. Шыдлоўскаг і інш.

**Гумар і сатыра:** Алёшы, С. Дарожнага, Э. Кагана, К. Крапівы, С. Старобінскага, С. Шушкевіча і інш.

**Малюнкі і фото:** Я. Ахрэмчыка, З. Азгура, П. Волкава, П. Гаўрыленкі, Грына, Г. Гурвіча, Давідовіча, Заборава, Г. Ізмайлава. П Кіпніса, Мазэлева, Б. Малкіна, М. Пашкевіча, Ран, У. Семянякі, І. Салавейчыка, А. Тычыны і шэрагу раённых карэспондэнтаў.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** на сваіх старонках адлюстроўвае сацыялістычнае будаўніцтва БССР і СССР, практыку герояў пяцігодкі, аддае вялікую ўвагу сацыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, сацыялістычнай перабудове вёскі, шырока асьвятляе разгортваньне культурнай рэвалюцыі, жыцьцё мастацтва, тэатру, кіно і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 4 | 80 | 2 | 40 | 1 | 20 |

Асобны нумар каштуе **20 к.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** усімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

---

**Не адкладвайце на апошнія дні**

**ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА 1933 ГОД**

**НА НОВУЮ ШТОМЕСЯЧНУЮ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКУЮ ЧАСОПІС**

# „ЗАКЛІК“

**(ОРГАН ОРГКАМІТЭТУ ССП БССР)**

Рэдкалегія часопісі: т.т. АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ (адказны рэдактар), Л. БЭНДЭ, П. ГЛЕБКА, ДЗЕХЦЯР, Р. КОБЕЦ, ЛЯХАЎ.

## РАЗЬДЗЕЛЫ ЧАСОПІСІ:

**Мастацкі** — поэмы, вершы, песьні, апавяданьні, новэлі, аповесьці, драматургія.

**Гаворыць краіна** — нарысы з фронту пабудовы сацыялізму, нарысы-ўспаміны старых бальшавікоў, нарысы-портрэты гэрояў-ударнікаў.

**Крытыка** — артыкулы пра палітыку партыі ў мастацкай літаратуры, дыскусія пра творчы мэтад савецкага пісьменьніка і інш.

**Літаратурная вучоба** — асноўныя практычныя веды па пытаньнях літаратуразнаўства на конкрэтных узорах вытворчасьці.

**Культурная спадчына** — у кожвым нумары характарыстыка дарэвалюцыйнага беларускага пісьменьніка, мэмуары, дакуманты і інш.

**Гісторыя літаратурнага руху ў БССР**

**Адзіным фронтам** — перапіска аўтараў з чытачамі.

**Бібліографія. Анотацыі на новыя выданьні беларускай літаратуры. Эпіграмы. Шаржы. Хроніка.**

**а таксама будуць зьмяшчацца лепшыя творы**

**У часопісі ўдзельнічаюць выдатныя сілы беларускае савецкае літаратуры,**

**рабочых, калгасьнікаў і чырвонаармейцаў, заклікаиых у літаратуру.**

**У часопісі будуць зьмяшчацца лепшыя творы рэвалюцыйных пісьменьнікаў Захаду, а таксама творчасьць народаў СССР.**

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 68, ДОМ ПІСЬМЕНЬНІКА.

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ.